ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

№ 20 (2599)
ПЯТНІЦА 19 мая 1972 г.
Выдаецца з 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.





**50 год утварэння СССР**

**Дзяржаўны** народны аркестр Беларускай ССР — у дарозе. Ён ужо выступіў перад жыхарамі Баку, Красናводска, Небіт-Дага, казахскіх стэпаў і памірскіх далін. Незабыўнымі засталіся ўражанні ад канцэрта ў адным са слаўутых саўгасаў Заходняга Казахстана «Бярозаўскім», многія жыхары якога — беларусы, што паехалі асвойваць цаліну ў 50-х гадах. Шмат пабудоў у саўгасе ўзвялі будаўнічыя атрады мінскага політэхнічнага інстытута. Надзвычай цёпла прымалі жыхары «Бярозаўскага» пасланцаў беларускай зямлі.

А праз некалькі дзён артысты ўжо выступалі ля падножжа Паміра, у жыхароў калгаса «Перамога» Ленінабадскага раёна Таджыкскай ССР (здымак унізе). Цымбальная музыка, якая ў нашым уяўленні неадрыўная ад маляўнічых беларускіх пейзажаў, набыла нібы новыя фарбы і адценні ў яркім ззянні памірскіх вяршынь.

І зноў — дарога... Сотні жыхароў старажытнага Самарканда сабраліся пад блакітным шатром бязвоблачнага неба, каб паслухаць беларускія напевы (здымак угары).

У сталіцы Узбекістана Ташкенце артысты знаёміліся з новымі кварталамі, узведзенымі рукамі беларускіх будаўнікоў. Горад стаў прыгажэйшым, чым быў да землетрасення. Канцэрты праходзілі ў выдатнай новай канцэртнай зале «Бахор».

Выступіўшы ў сталіцы Кіргізіі Фрунзе, беларускія артысты выехалі ў далёкія горныя раёны Цянь-Шаня і ўсюды чулі традыцыйнае сардэчнае «Рахмат» — «Дзякуй».

Наперадзе — выступленні ў Кустанаі, Аркадыку, Цалінаградзе.

Свой гастрольны маршрут працягласцю ў 16 000 кіламетраў калектыў аркестра прысвячае вялікаму святу братніх народаў — 50-годдзю ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Тэкст і фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# СЁННЯ—50 гадоў УСЕСАЮЗНАЙ ПІЯНЕРСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ імя У. І. ЛЕНІНА

*Шлях паказан вам шырокі,*
*Шлях прасторны,*
*Светлы, зорны.*
*Дык наперад цвёрдым крокам,*
*Шум вясенні, яснавокі!*
*Дзеці волі, дзеці буры!..*

**Так некалі пісаў Якуб Колас у вершы «Піянерам».**

**Дзеці волі, дзеці буры!.. Гэта не проста паэтычная метафара. Тыя, першыя, былі народжаны рэвалюцыяй, апалены навальнічным подыхам грамадзянскай вайны. Ім наканавана было будаваць новае жыццё, заваяванае бацькамі.**

**Не адно пакаленне савецкіх людзей з пяшчотай, з гонарам успамінае піянерскую пару. Піянер — значыць першапраходца. Савецкія піянеры і сапраўды першапраходцы. І ў час цяжкіх выпрабаванняў, і ў гады мірнага будаўніцтва яны з гонарам неслі і нясуць высокае імя ўнукаў Ільіча.**

**Пяцьдзесят гадоў савецкай піянерыі. Сёння ў яе радах 23 мільёны дзяцей. На піянерскім сцягу — ордэн Леніна, усенароднае прызнанне заслуг арганізацыі. «Створаная па ініцыятыве Камуністычнай партыі піянерская арганізацыя, — гаворыцца ў пастанове ЦК КПСС «Аб 50-годдзі Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна», — з'яўляецца важным звяном у сістэме камуністычнага выхавання падрастаючага пакалення. Пад кіраўніцтвам партыі і свайго важатага — Ленінскага камсамола піянерская арганізацыя разам са школай, сям'ёй і савецкай грамадскасцю актыўна ўдзельнічае ў вырашэнні задач ідэйна-маральнага станаўлення і ўсебаковага развіцця юных грамадзян».**

**Даўняя сардэчная дружба ў піянераў краіны з работнікамі літаратуры і мастацтва. Слаўным справам піянеры прысвячалі сваё натхнёнае слова савецкія пісьменнікі, свае лепшыя песні — кампазітары, свае карціны — мастакі.**

**На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — адна з такіх сустрэч. Да піянераў мінскай сярэдняй школы № 30 прыйшоў старэйшы беларускі дзіцячы пісьменнік Алесь Якімовіч. Алесю Іванавічу ёсць пра што расказаць юным ленінцам. Ён быў рэдактарам першага беларускага піянерскага часопіса «Іскры Ільіча».**



## *МАСТАЦКІЯ САВЕТЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ*

Для абмеркавання надзённых творчых праблем, аказання дапамогі ў развіцці тэатральнага і музычнага мастацтва, харэаграфіі і эстрады ў Міністэрстве культуры БССР створаны два кансультатыўныя органы: мастацкі савет па музычным мастацтве, харэаграфіі, эстрадзе і мастацкі савет па драматычных тэатрах. Калегія Міністэрства культуры БССР зацвердзіла палажэнні аб гэтых саветах і іх склад.

Мастацкі савет па музычным мастацтве, харэаграфіі і эстрадзе будзе аналізаваць і абагульняць вынікі канцэртных сезонаў, цікавіцца станам музычнай драматургіі, харэаграфіі, разглядаць асноўныя тэндэнцыі і праблематыку сучаснага беларускага пернага і балетнага мастацтва, музычнай камедыі і эстрады, іх ідэйнай накіраванасці і мастацкай якасці. У яго полі зроку будуць таксама пытанні павышэння прафесійнага майстэрства, падрыхтоўкі і выхавання маладых творчых сіл, праблемы развіцця вакальна-харавой культуры, яе сувязі з народнай творчасцю, стану музычнай крытыкі ў рэспубліцы.

У склад савета па музычным мастацтве, харэаграфіі і эстрадзе ўвайшлі кампазітары, драматургі, дырыжоры, балетмайстры, кіраўнікі творчых калектываў, артысты, музыканты, мастацтвазнаўцы (46 членаў). Старшынёй гэтага савета зацверджаны народны артыст СССР Р. Шырма, яго намеснікамі—заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Семяняка і начальнік Упраўлення па справах мастацтваў міністэрства А. Каландзёнак.

Мастацкі савет па драматычных тэатрах будзе абагульняць творчую дзейнасць гэтых калектываў, дбаць пра павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню спектакляў, умацаванне сувязей з гледачом. На парадку дня яго пасяджэнняў будуць таксама пытанні развіцця беларускай драматургіі, павышэння майстэрства рэжысуры і акцёраў, стану тэатральнай крытыкі і тэатразнаўства ў рэспубліцы. Будуць таксама абмяроўвацца навуковыя працы па гісторыі і тэорыі беларускага тэатра і драматургіі.

У складзе мастацкага савета па драматычных тэатрах — кіраўнікі тэатраў, рэжысёры, артысты, тэатральныя мастакі, крытыкі, драматургі, работнікі органаў культуры рэспублікі—усяго 48 чалавек. Старшынёй савета зацверджаны народны артыст СССР Л. Рахленка, намеснікамі — народная артыстка СССР А. Клімава і галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР А. Саннікаў.

# УЗЛЁТАМ САКАЛІНЫМ

*РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС-АГЛЯД ЧЫТАЛЬНІКАЎ НА ЛЕПШАЕ ВЫКАНАННЕ ТВОРАЎ Я. КУПАЛЫ І Я. КОЛАСА*

Зайдзіце сёння ў бібліятэку, клуб, дом культуры і вы абавязкова ўбачыце выстаўку твораў народных песняроў, аб'явы запросяць вас на літаратурны вечар ці канцэрт, у якім будзе гучаць Купалава і Коласава слова. У тэатрах можна паглядзець вясёлую іскрыстую «Паўлінку», у кінатэатрах і па тэлебачанні— кінастужкі пра жыццё і творчасць гэтых двух асілкаў нашай культуры. І рэспубліканскі конкурс чытальнікаў на лепшае выкананне твораў Купалы і Коласа, які быў аб'яўлены прэзідыумам савета прафсаюзаў Беларусі і Міністэрствам культуры БССР — адна з многіх праяў усенароднай пашаны да іх светлай памяці.

— Яшчэ дакладна не падлічана, — расказвае старшыня рэспубліканскага журы конкурсу-агляду самадзейных чытальнікаў, заслужаны артыст рэспублікі Ілья Курган, — колькі аматараў мастацкага слова ўдзельнічала ў гэтым творчым спаборніцтве. Але справа не ў лічбах, хаця і яны пра многае гавораць. Адно можна сказаць, што не сотні, а тысячы самадзейных артыстаў з любоўю і натхненнем чытаюць сёння несмяротныя творы песняроў беларускага народа.

Агляды пачаліся, як кажуць, з нізоў. Першыя творчыя выпрабаванні адбываліся на сцэнах сельскіх, калгасных і прафсаюзных клубаў і дамоў культуры. Пасля былі раённыя, затым — абласныя агляды-конкурсы і нарэшце — трэці, заключны яго этап. Лепшыя чытальнікі з абласцей прыехалі ў Мінск. Іх больш за сорак. Людзі розных прафесій, узросту, якія горача любяць мастацкае слова...

Але зойдзем у глядзельную залу Палаца культуры прафсаюзаў, дзе адбывалася гэтая ўрачыстасць. Усхваляванае слова сказаў Максім Лужанін:

— Сёння ў гэтую залу нас сабрала вялікая пашана да высокага грамадзянскага подзвігу нашых народных песняроў — сапраўдных волатаў беларускай культуры. У свой час Максім Горкі пісаў, што Пушкін у нас пачатак усіх пачаткаў. Тое ж самае можна сказаць і пра Купалу і Коласа. Ад іх пачалася наша літаратура, наша мова. Яны пакінулі нам у спадчыну паэтычную формулу яднання партыі і народа.

У нас многае робіцца, каб творы Купалы і Коласа заваёўвалі шырокую чытацкую аўдыторыю. Адна з форм прапаганды мастацкага слова гэты конкурс-агляд. Надзвычай плённая, цікавая і патрэбная справа...

І вось на сцэне вучаніца сярэдняй школы з Асіповіч



Прыз настаўніцы Г. Чугуевай уручае паэт С. Грахоўскі.

чала чытаць славуты купалаўскі верш «Беларускім партызанам» неяк вельмі ўжо будзённа, сцішана. У першыя хвіліны нават здалося, што можа і не варта было ёй чытаць гэты баявы патрыятычны заклік паэта да свайго народа. Але мінула нейкае імгненне, аціхла хваляванне і... дзе толькі сіла ўзялася ў юнай чытальніцы.



Прыз інжынеру І. Гарэцкаму ўручае дырэктар музея Я. Коласа Д. Міцкевіч.

Фота Ул. КРУКА.

Валянціна Грамыка. Доўгая дзявочая каса, якую цяпер убачыш не часта. Абветраны вясновым сонцам твар. Мілая, нясмелая, ледзь улоўная ўсмешка. Вельмі шчыра яна чытае верш Якуба Коласа «У палях Беларусі...»

Сярод чытальнікаў увогуле многа моладзі — рабочых, вучняў, студэнтаў. Галіна Палачаніна і Васіль Кандрасюк, Ніна Марчэня і Міхаіл Сталяроў, Галіна Чугуева і Валянціна Плюшкіна, Раіса Іуціна, Ала Баранава, Тамара Васюхіна... Сэрцамі сваімі захоўваюць яны непаўторнае хараство паэзіі Купалы і Коласа.

Вучаніца сярэдняй школы з Бярозы Ніна Марчэня па-

Артысту-прафесіяналу і то нялёгка заставацца сам-насам з глядзельнай залай. А тут аматар, ды яшчэ школьніца. Але кожны, хто сядзеў тады ў зале, быў усхваляваны шчырым словам юнай чытальніцы пра Беларусь-партызанку.

Не першы раз выступае ў конкурсах інжынер Мінскага аўтазавода Іосіф Гарэцкі. Ён любіць творы Купалы і Коласа, умее перадаць настрой і пафас іх вершаў. Найбольшы поспех спадарожнічае Гарэцкаму, калі ён чытае гумарыстычныя творы. І на гэты раз зала цёпла прыняла яго выступленне — урывак з паэмы «Новая зямля» пра бедалагу дзядзьку-кухара, які ўмудрыўся зварыць клёцкі на бярозавым соку.

Заслужаны поспех заваявала і настаўніца з Асіповіцкага раёна Галіна Чугуева, якая здолела перадаць сваім выкананнем прывабны вобраз смелай, няскоранай Бандароўны.

Журы рэспубліканскага конкурсу-агляду самадзейных чытальнікаў галоўныя прызы размеркавала так: за лепшае выкананне твораў Янкі Купалы — настаўніцы Г. Чугуевай, твораў Якуба Коласа — інжынеру І. Гарэцкаму. Прыз Саюза пісьменнікаў БССР атрымала вучаніца Н. Марчэня, газеты «Літаратура і мастацтва» — метадыст Маладзечанскага раённага дома культуры В. Плюшкіна, Літаратурнага музея Янкі Купалы — студэнтка Мінскага педінстытута Г. Палачаніна, Літаратурнага музея Якуба Коласа — работнік Магілёўскага палаца культуры чыгуначнікаў Р. Іуціна, ЦК ЛКСМБ — студэнт інстытута замежных моў М. Сталяроў. Дома мастацкай самадзейнасці рэспубліканскага савета прафсаюзаў — работнікі Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў В. і Э. Нікалаевы, Рэспубліканскага дома народнай творчасці — школьніца В. Грамыка. Усе ўдзельнікі свята купалаўскай і коласаўскай паэзіі атрымалі памятныя сувеніры.

— Мы перажылі нямала радасных хвілін на гэтым конкурсе, — дзеліцца ўражаннямі сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч. — Многія чытальнікі парадавалі сваім майстэрствам І вельмі хацелася б, каб добры пачатак не заглух. Варта, мне здаецца, узаконіць творчае спаборніцтва самадзейных чытальнікаў. Няхай, скажам, раз у два гады праводзіцца рэспубліканскі конкурс чытальнікаў на лепшае выкананне твораў беларускіх пісьменнікаў. Бо чытанне мастацкай літаратуры — гэта вялікі гарт і для аўдыторыі, і для артыстаў-аматараў. Трэба, вядома, звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на вучобу самадзейных чытальнікаў. Тут яшчэ не пачаты край работы...

Застаецца толькі далучыцца да слушных прапаноў Данілы Канстанцінавіча і пажадаць нашым нястомным прапагандыстам мастацкага слова — самадзейным чытальнікам вялікіх творчых удач.

**Я. ДАНСКАЯ.**

# БЕЛАРУСКІ ЛЕС

Чуеш гул?—Гэта сумны,
маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысяча крэпка
нацягнутых струн,
Танкаствольныя сосны звіняць.

Цудоўныя радкі з «Вянка» М. Багдановіча пераносяць мяне ў даўно мінулае, у мілую майму сэрцу Брожскую дачу Бабруйскага лясніцтва, дзе ўжо добрых пяцьдзесят год не даводзілася быць. Гэтая дача, у якой «танкаствольныя сосны звіняць», часоў Кацярыны лічылася карабельным лесам і, пэўна ж, з поўным правам: каб пабачыць «шапку» залатаствольнай сасны, трэба галаву гэтак угору задраць, што свая шапка ледзь з галавы не валіцца.

Не хачу трапляць у палон вузкамясцовага патрыятызму — упэўнены, што выдатных сасновых бароў у Беларусі нямала. Можа, нават, за імі ёсць і добры догляд, бо дрэву патрэбна не столькі лірычная мянушка «зялёны сябра», а, менавіта, догляд. Мне здаецца нават, што лясы пад Мінскам маглі б у нейкай ступені выкарыстоўвацца як паркі.

Варта падумаць не толькі аб вырубцы хворых, пашкоджаных рознымі дрэваедамі, паміраючых і сухастойных дрэў і буралому, а і пра тое, каб каштоўныя пароды не выціскаліся менш каштоўнымі. Такое назіраецца, скажам, у Мінскай прыгараднай зоне.

Нельга абыякава глядзець, як сасновыя бары і бярозавыя гаі запаланяе парасль яліны. А паводзіць сябе яна занадта агрэсіўна: дзе завялася яліна—не быць там сасноваму бору ці бярозаваму гаю.

Клянуць яліну і сталяры. Расказаў мне байку стары сталяр: «Паміраў сталяр, і прыйшлі да яго сукі прасіць, каб дараваў ён ім грахі, дараваў, што мучылі яны яго праз усё жыццё... і адказаў ім небарака: «Табе, сасновы сук, дарую ўсё, і табе, дубовы, дарую, а табе, яловы злыдзень, дараваць не магу...» Сказаў і сканаў...

І яшчэ пра адно. Не так даўно ў «Правде» была надрукавана нататка: «Шумець арэхавым гаям». У ёй гаварылася, што Дзяржаўны камітэт лясной гаспадаркі Савета Міністраў СССР ухваліў рашэнне стварыць у гэтай пяцігодцы ў цэнтральных абласцях Расіі больш пяці тысяч гектараў прамысловых плантацый арэхаў.

У сувязі з гэтым вучоны-селекцыянер Навукова-даследчага інстытута лесаводства і механізацыі лясной гаспадаркі Р. Кудашова паведаміла, што падмаскоўны Іванцееўскі гадавальнік інстытута рыхтуе саджанцы шляхам селекцыі і адбору ў прыродзе найбольш каштоўных форм кустоў. Шляхам скрыжавання ляшчыны звычайнай з паўднёвымі культурамі атрымліваюцца высокакаштоўныя гатункі арэха-фундука. Плады асобных гатункаў учацвёра буйнейшыя за ядро звычайнага ляснога арэха.

Такая ўвага да ляшчыны зразумелая: ядро арэха—сапраўдная кладоўка бялку, тлушчу, вітамінаў, амінакіслот.

Думаецца, калі ў Падмаскоўі — «шумець арэхавым гаям», дык чаму ім не шумець у Беларусі? Можа і ў нас прыспеў час на грунце нашай дзікарослай ляшчыны, шляхам яе скрыжавання з культурнымі гатункамі, стварыць прамысловыя арэхавыя плантацыі? Ды што ляшчына, у нас жа, асабліва ў паўднёвых раёнах, можа расці і пладаносіць грэцкі арэх.

Каб не быць галаслоўным, падаю бясспрэчны факт, які меўся ў Бабруйску. Зноў давядзецца акунуцца ў далёкае мінулае. У майго бацькі ў садзе расло дрэва, якое вабіла нас—тады дзяцей—прыемным пахам сваіх пацёртых у далонях лісцяў. Бацька казаў, што гэта—грэцкі арэх, але ён не дачакаўся пакаштаваць пладоў гэтага дрэва... Міналі гады. У сярэдзіне 20-х гадоў я выехаў у Мінск. Часам наязджаў у Бабруйск. На бацькавай сядзібе жыў другі чалавек. Нешта ўжо ў канцы 20-х гадоў ён прынёс мне прыгаршчы грэцкіх арэхаў са словамі:

— Ласуйцеся, гэта ж з таго вашага дрэва!

І сапраўды, ласавацца было чым: шалупінне — тонкае, плод ядроны, смачны.

Вось я і даводжу: у Беларусі могуць і павінны быць плантацыі ляшчыны-фундука і грэцкага арэха. Справа за людзьмі!

**В. ЛЯШЭВІЧ.**

# БЫЎ У ЖАБІНЦЫ МУЗЕЙ

Пра школьны краязнаўчы музей у Жабінцы нямала пісалі ў свой час і брэсцкая абласная газета «Зара», і «Настаўніцкая газета», і «Зоры над Бугам». Абласное тэлебачанне зрабіла перадачу, а Брэсцкі абком партыі выдаў нават спецыяльны плакат, прысвечаны гэтаму музею. І ўвогуле яго дасягненні досыць важкія: удзел у Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў 1967 і 1968 гадах, Дыплом I ступені Міністэрства асветы БССР.

Выпускнікі школы, успамінаючы вучобу, з пашанай гавораць пра музей, пра тыя паходы, сустрэчы, справы, якія аб'ядноўвалі іх, захаплялі мужнасцю і гераізмам народа, будзілі ў іх прагу да подзвігу.

А паходаў і сустрэч было нямала. Сустрэча з дэлегатам III з'езда партыі Ільёй Міхайлавічам Кузняцом, які бачыў і чуў Уладзіміра Ільіча Леніна, з былымі разведчыкамі партызанскага атрада імя Фрунзе Рыгорам Клебановічам і Аляксеем Мікалюком. Ніколі не забыць і сустрэчу ў вёсцы Корды з Цімафеем Давыдавічам Пракапчуком. Тут, у Кордах, у гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя. Карнікам удалося напасці на яе след. 20 мая 1942 года яны знянацку ўварваліся ў вёску, схапілі юных мсціўцаў і на вачах вяскоўцаў расстралялі...

На тэрыторыі раёна вучні выявілі каля 300 прозвішчаў загінуўшых воінаў. Яны ж аднавілі непадалёк ад вёскі Паўлапаль партызанскую зямлянку.

Ішлі і ішлі ў музей наведвальнікі. Прыязджалі экскурсіі з школ раёна, з калгасаў і саўгасаў. Дасюль ўспамінаюць выпускнікі і Аляксандра Паўлавіча Гогалева — арганізатара музея, цудоўнага настаўніка і чалавека, які разам з імі прайшоў кожную сцяжынку.

Але летась на ўсходняй ускраіне Жабінкі вырас цудоўны чатырохпавярховы гмах новай школы. Да гэтага першая школа, дзе знаходзіўся музей, тулілася ў старой — на два паверхі — будыніне. Было там цеснавата і нязручна, і ў свой час давялося, як кажуць, паламаць галаву, каб размясціць музей. Урэшце, пад музей прыстасавалі нейкую камору без вокнаў, пад самым дахам. Аляксандр Паўлавіч хоць і быў ужо апошнімі гадамі на пенсіі, аднак са школай і музеем сувязі не траціў. І вось школа перасялілася ў новае памяшканне, а пра музей дырэктар школы Іван Мацвеевіч Бажкоў нібы забыўся. Яго пакінулі на старым месцы, у той жа старой пабудове, якая засталася без усякага прыгляду. Амаль штодня Аляксандр Паўлавіч наведваўся да дырэктара школы з напамінкам аб музеі. Той толькі адмахваўся...

Ішлі дні за днямі. Гогалеў усё гэтак жа хадзіў да дырэктара, быў і ў тагачаснага загадчыка аддзела народнай асветы Пятра Мікалаевіча Іванцова, а музей як быў у каморы, так і застаўся. І хто ведае, мо і дагэтуль музей быў бы замкнуты, калі б... Аднойчы ноччу нехта ўзламаў дзверы—і дрот не дапамог! — і асобныя экспанаты апынуліся ў міліцыі: знайшлі іх добрыя людзі па гародах і завулках. І толькі тады, нарэшце, спахапіліся ў школе, перавялі рэшткі музейных экспанатаў у новае памяшканне...

Калі ж Жабінкаўскі краязнаўчы музей будзе, нарэшце, адноўлены?

**І. ТАРАСЮК.**

# НА ПРАФЕСІЙНЫМ УЗРОЎНІ

Я — рэжысёр, жыву і працую ў Маскве. Вясной мінулага года тэатральнае вучылішча імя Шчукіна пры Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Б. Вахтангава даручыла мне паглядзець дыпломны спектакль выпускніка рэжысёрскага факультэта Міхаіла Коласа. Я ведала Коласа па вучэбных работах, не сумнявалася ў яго рэжысёрскіх здольнасцях. Але я не магла ўявіць, што ўражанне ад убачанага мной спектакля — гэта была п'еса І. Мележа «Людзі на балоце» — трэба будзе вызначаць высокім словам «незабыўнае».

Мазырскі народны тэатр — з'ява надзвычай значная. І значнасць гэта вызначаецца не толькі тым, што некалькі дзесяткаў чалавек розных прафесій шмат гадоў запар аддаюць свой адпачынак любімай справе — тэатру, але, галоўным чынам, тым, што ім удаецца ствараць сапраўдныя творы мастацтва, у ацэнцы якіх не патрэбны ніякія скідкі.

На Усесаюзным фестывалі самадзейнага мастацтва, прысвечаным пяцідзесяцігоддзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, гэты самадзейны тэатр заняў прызавое месца і ў маі 1967 года прывёз свой спектакль — драму Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» —у Маскву, у Крамлёўскі тэатр. З таго часу калектыў вырас, чаму нямала садзейнічала сур'ёзная рэжысёрская падрыхтоўка майстэрскага кіраўніка—М. Коласа. Цяпер гэта калектыў, які ў многім дасягнуў прафесійнага ўзроўню, з даволі моцным акцёрскім ансамблем, з першакласным рэжысёрам, цудоўным мастаком. (Мастак П. Захараў некалькі гадоў назад выпадкова трапіў у гэты тэатр, «захварэў» ім і стаў тэатральным мастаком).

У шэрагу дасягненняў калектыву асобнае месца займаюць масавыя сцэны. У спектаклі «Людзі на балоце» героі паказаны з такой верагоднасцю і драматызмам, што гэтаму мог бы пазайздросціць і прафесійны тэатр.

Тэатр іграе на сцэнах розных палацаў культуры і клубаў, і дзе б ні ішоў спектакль, зала заўсёды поўная. Дзякуючы народнаму тэатру, Мазыр стаў тэатральным горадам. Ці не час падумаць аб тым, каб на базе гэтага сур'ёзнага, самабытнага калектыву стварыць у горадзе прафесійны тэатр?

**Ю. ВЕРТМАН.**

Масква.

# З'ЯДНАЛА АГУЛЬНАЯ ЦІКАВАСЦЬ

...Кожная рэпетыцыя ўсё цясней згуртоўвала аматараў музыкі. І вось на сцэне Слонімскага РДК першы раз выступіў новы калектыў мастацкай самадзейнасці—аркестр народных інструментаў.



М. Малікаў (першы злева) з удзельнікамі аркестра.

Выступленне было ўдалае. У аркестр прыйшлі новыя ўдзельнікі. Кіраўнік аркестра Марат Малікаў — выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Не толькі для рэпетыцый збіраюцца ўдзельнікі аркестра, але і каб пачуць цікавае слова пра любімага кампазітара і яго творчасць, глыбей зразумець нейкі музычны твор. Марат Аляксеевіч не гоніцца за колькасцю развучаных твораў, ён звяртае ўвагу на вучобу ўдзельнікаў, іх выканаўчае майстэрства. Праўда, аркестр усё роўна мае ўжо даволі грунтоўны рэпертуар — больш дваццаці пяці складаных твораў.

Цяпер калектыў рыхтуе новую канцэртную праграму з двух аддзяленняў, прысвечаную 50-годдзю ўтварэння СССР.

**А. ІВЕРС.**

Фота С. ПРАСНЯКА.

# ПАВАГА ДА ГІСТОРЫІ — УДЗЯЧНАСЦЬ НАШЧАДКАЎ

Пісьмо мастака Д. Маслава («ЛІМ», 24.III.72 г.), здаецца, прысвечана аднаму факту — ці будзе музей вялікаму сыну беларускага народа Кастусю Каліноўскаму? Але яно, на маю думку, выходзіць за рамкі факта, узнімае вельмі важнае пытанне аб нашай удзячнасці людзям, чые палымяныя сэрцы згарэлі ў бітве за волю, за шчасце народа.

Пісьмо Д. Маслава мне нагадала вось аб чым. Летась адзначалася 225-годдзе з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, «вялікага грамадзяніна Польшчы», як яго назваў А. Герцэн.

Не ўсе ведаюць, што Касцюшка нарадзіўся на Брэстчыне, ля горада Косава. Тут, на ўскрайку горада, ля самай шашы, што вядзе ў Ружаны, у маляўнічым урочышчы Мерачоўшчына, побач з велічнымі руінамі палаца Вандаліна Пуслоўскага, стаяў сціплы драўляны домік, у якім нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады нацыянальны герой польскага народа. Гэты домік у гады Вялікай Айчыннай вайны спалілі фашысты, але да гэтага часу бачна месца, дзе ён стаяў. Праўда, паказаць яго могуць толькі мясцовыя жыхары, бо ні ў Косаве, ні на месцы былога дома Т. Касцюшкі няма ніякага ўказальніка. І турысты, якія часта праязджаюць праз Косава, любуючыся дасканаласцю пабудаванага ў першай палове XIX стагоддзя палаца, нават і не ведаюць, што тут, побач, знаходзіцца месца, не менш вартае ўвагі.

Праўда, у краязнаўчым музеі сярэдняй школы, які ствараўся пад кіраўніцтвам дырэктара Я. Янчанкі і выкладчыцы геаграфіі М. Дычкінай, ёсць шмат матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Т. Касцюшкі. Іх падаравалі школьнаму музею мясцовыя жыхары, прыслалі сябры з ПНР. Тут памятныя медалі ў гонар Т. Касцюшкі, фотарэпрадукцыі дакументаў і мастацкіх палотнаў, мастацкія і навуковыя працы, публікацыі аб ім.

Школьны краязнаўчы музей месціцца ў двух пакойчыках. А ён жа захоўвае матэрыялы не толькі пра Касцюшку, але і па гісторыі Косаўшчыны, па слаўнай барацьбе КПЗБ, партызанскай дзейнасці атрадаў народных мсціўцаў, якія змагаліся з ворагам на тэрыторыі былога Косаўскага раёна.

Матэрыялы, сабраныя школьнікамі, могуць стаць асновай музея Тадэвуша Касцюшкі. У жыхароў горада і навакольных вёсак знайшліся б шматлікія экспанаты, якія дапамаглі б уваскрасіць тыя далёкія часіны, якія расказалі б аб нашым земляку, аб жыцці беларускага народа і яго барацьбе за незалежнасць. І такі музей, мне здаецца, можна было б размясціць побач з рамантычнымі руінамі палаца Пуслоўскага, ля месца, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка. Там і зараз стаяць маляўнічыя домікі, пабудаваныя яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя. Месца гэтае вельмі прыгожае — побач лес, сістэма штучных азёр — размешчана на ажыўленай турысцкай трасе, што вядзе ў Ружаны, на Слонім і Ваўкавыск.

Вядома, стварэнне музея, устаноўка помніка — справа складаная, справа не аднаго дня. А вось указальнікі, мемарыяльная дошка на месцы, дзе нарадзіўся славуты палкаводзец, не патрабуе вялікіх затрат і намаганняў, яны могуць быць устаноўлены ўжо сёлета. Гэтага патрабуе павага да чалавека, які прысвяціў сваё жыццё барацьбе за вызваленне братняга польскага народа, быў сапраўдным сябрам беларусаў, сярод якіх правёў дзіцячыя і юнацкія гады.

**Рыгор БАКІЕВІЧ,**
член Саюза журналістаў.

Брэст.

інскіх спектакляў, асабліва пастаўленых па п'есах сваёй нацыянальнай класікі. Такім сентыментальным, нават саладжавым здалося мне прымірэнне Калабка з Палінай.

Гэта, аднак, толькі асобныя выдаткі. Заканчваецца спектакль на высокай трагічнай ноце. Раздаецца магутны выбух (Цярэшкаў Валодзька ўзрывае фашыстаў і гіне сам), сцэна імгненна зацямняецца. Зноў успыхвае святло, і мы бачым уводдалі чырвонае зарыва. Яно ахапіла амаль усё неба. На гэтым барвовым фоне — абвугленыя каміны, званы Хатыні. Раздаюцца іх трывожныя гукі. Артысты на сцэне нібы замерлі, застылі ў журботным маўчанні. Потым яшчэ раз пагасла святло, і раздаўся адчайны плач — галашэнне Цярэшкі Калабка. Сам па сабе такі ўзнёслы фінал уражвае. Праўда, мне здаецца, што ён не зусім адпавядае стылістыцы спектакля, сыгранага без прэтэнзій, вельмі зямнога, шчырага, бытавога ў самым добрым значэнні гэтага слова.

У адзін з вечароў давялося ахвяраваць пастаноўкай «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» Чарнавіцкага музычна-драматычнага тэатра імя Кабылянскай, каб паглядзець «Зацюканага апостала» А. Макаёнка ў Кіеўскім рускім тэатры імя Л. Украінкі. Гэты спектакль не атрымаў ніякай прэміі і таму, натуральна, на фестывалі не паказваўся. Урэшце я не пашкадаваў, што зрабіў такі выбар.

Праўда, спачатку пастаноўка крыху насцярожыла. Пакой, у якім будуць разгортвацца падзеі, паўкругам акаймляюць кніжныя паліцы, на якіх расстаўлены вялікія, груваскія тамы. Уверсе паліцы, у цэнтры — статуя нейкага бога ці апостала. Пасярэдзіне пакоя, бліжэй да рампы, — тэлефон. Злева і справа ўваходы ў пакой. Такое афармленне, планіроўка сцэны самі па сабе не могуць выклікаць пярэчання. Але справа ў тым, што ўсё гэта ўжо было і ў адным спектаклі, і ў другім... Выканаўцы, якія ігралі Тату і Маму, выглядалі крыху старэватымі для тых размоў, якія вядуць па тэлефоне. Затое вобраз Сына ў выкананні Барыса Вазнюка здаўся мне вельмі цікавым.

Яго герой, хоць і расце ў мітуслівым, каб не сказаць істэрычным асяроддзі (дзікія шумы, віск і з вуліцы, і з пласцінак, што пракручваюць у доме, раз-пораз раздаюцца ў спектаклі, ствараючы адпаведны фон), — усё ж натура па-свойму даволі цэльная. Артыст не «гамлетызуе» вобраз, чым іншы раз грашаць выканаўцы гэтай ролі, не перабольшвае яго душэўных пакут і супярэчнасцей... Адбываецца працэс пазнання, менавіта працэс, які мае сваю завязку, развіццё, кульмінацыю — рэжысёр А. Бабенка выстройвае спектакль з лагічнай і псіхалагічнай паслядоўнасцю.

Вось перад Сынам адкрываецца ўся фальш, прадажнасць, няшчырасць яго бацькоў. І ён пачынае бунтаваць, на грубасць адказвае грубасцю, на бесчалавечнасць — бесчалавечнасцю. Сын праводзіць вопыт за вопытам...

Калі спектакль пачынае ўжо набліжацца да свайго фіналу, на сцэне з'яўляецца Дзед. Роля Дзеда не вельмі выразная ў п'есе і ў пастаноўках ён найчасцей ператвараецца ў службовы, функцыянальны персанаж. Дзед у спектаклі тэатра імя Л. Украінкі — адна з асноўных дзейных асоб, дзякуючы не толькі акцёрскаму майстэрству М. Розіна, але і такому месцу, якое яму адводзіць рэжысёр у пастаноўцы. Гэты Дзед — разумны прайдзісвет, палітыкан высокага класа.

Дзед з'явіўся ў спектаклі якраз у той момант, калі Сын праводзіць чарговы і, магчыма, самы адказны псіхалагічны вопыт — гаворыць усім усю праўду. Менавіта цяпер перад хлопчыкам адкрылася яшчэ адна ісціна (працэс пазнання дасягнуў сваёй кульмінацыі): у тым асяроддзі, дзе ён знаходзіцца праўда нікому не патрэбна.

Пасля падзення з трэцяга паверха Сын вяртаецца ў дом. Ён больш не бунтуе, выконвае літаральна ўсё, што яму гавораць. Сястра з трывогай заўважае, што ён стаў ідыётам і цяпер не будзе ні прэм'ер-міністрам, ні прэзідэнтам. А Дзед на гэта ёй адказвае, што якраз цяпер Сын і можа ім зрабіцца.

Ён першы заўважыў, што Сын змяніў сваю тактыку, перайначыў сябе. І цяпер будзе такім, як Мама, Тата, Дзед, як многія іншыя людзі з яго асяроддзя. Сын пасля падзення зусім не здаецца вар'ятам. Вочы яго глядзяць па-ранейшаму разумна. Мабыць, ён проста зразумеў, што праўдай нічога не даможашся, што яе гаварыць — значыць мець адны толькі непрыемнасці.

Не ведаю, ці менавіта так задумваў гэтыя вобразы Андрэй Макаёнак. Мне здаецца, што інакш. Але сведчу, што і такое прачытанне іх атрымалася змястоўным, па-сапраўднаму цікавым.

ПАДЧАС тыдня, на які, дарэчы прыбылі госці ледзьве не з усіх саюзных рэспублік, праводзілася вялікая тэатральная канферэнцыя. Закранулі на ёй многія праблемы і, бадай, больш за ўсё гаварылі пра тое, як ставіць на сцэне п'есы аўтараў іншых народаў.

Тыдзень драматургіі братніх рэспублік у Кіеве даў для пастаноўкі і вырашэння такой праблемы даволі багаты матэрыял. Але слова для гаворкі на старонках газеты аб прынцыпах сцэнічнага прачытання іншанацыянальнай п'есы я папрашу другім разам.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# КОНКУРС НАРОДНЫХ ТЭАТРАЎ



На здымку — сцэна са спектакля «Хітрыкі Скапэна».

Фота Ул. КРУКА.

Трэці раз за апошнія гады адбываецца конкурс народных калектываў мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў Мінскай вобласці. Спаборнічаюць сем народных тэатраў, знаёмячы гледачоў сталіцы са сваімі новымі работамі, якія яны прысвяцілі 50-годдзю ўтварэння СССР.

Сем тэатраў, сем розных творчых калектываў. Народны тэатр палаца культуры трактарнага завода паказаў на конкурсе драму Якуба Коласа «Вайна вайне». Рэжысёр-пастаноўшчык — заслужаны работнік культуры БССР А. Бяляеў, мастак — В. Кульваноўскі, кансультант — народны артыст СССР П. Малчанаў.

Народны тэатр палаца культуры Мінскага камвольнага камбіната паказаў драму «Гады вандраванняў» А. Арбузава. Гэты складаны спектакль увасобілі на сцэне рэжысёр-пастаноўшчык, заслужаны артыст Грузінскай ССР Б. Казінец, рэжысёр Г. Жаркоў і мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Казахскай ССР В. Галубовіч.

Добрае ўражанне ў гледача пакінула камедыя Мальера «Хітрыкі Скапэна» ў выкананні народнага тэатра мімікі і жэсту Беларускага таварыства глуханямых. Поспеху спектакля ў многім спрыяла таленавітая ігра артыстаў-аматараў А. Мірошкіна, А. Плужэнікава, Л. Кункіна і іншых. Сапраўды тытанічную работу правяла дыктар-перакладчыца Галіна Лабоўкіна. Словы дыктара-перакладчыка сінхронна супадалі з мімікай і жэстамі акцёра. Паставіла гэты цікавы спектакль заслужаная артыстка БССР Ю. Арончык.

У рэпертуары ўдзельнікаў агляду творы савецкіх аўтараў і класікаў. Народны тэатр Мінскага акруговага дома афіцэраў паказаў драму К. Фіна «Жанчына без узросту». Трагікамедыю А. Макаёнка «Трыбунал» паставіў народны тэатр Маладзечанскага вытворчага мэблевага аб'яднання.

Агляд працягнецца да 23 мая. Народны тэатр палаца культуры прафсаюзаў пакажа «Зыкавых» М. Горкага, а мінскія аўтазаводцы—драму Ю. Чапурына «Маё сэрца з табой».

ВОДГУКІ, АДКАЗЫ

# НАВОШТА ЧАЛАВЕКУ ГАЗЕТА?

**Пад такім загалоўкам у «Літаратуры і мастацтве» за 24 снежня мінулага года было змешчана пісьмо аб дрэннай дастаўцы паштовай карэспандэнцыі ў 29 аддзяленні сувязі г. Мінска.**

**Як паведаміла нам Міністэрства сувязі БССР, выпадкі несвоечасовай дастаўкі газет падпісчыкам мелі месца.**

**З 1-га лютага г.г. у 29-м аддзяленні сувязі ўкараняецца матарызаваная дастаўка, укамплектаваны штат паштальёнаў.**

**Кіраўніцтву Мінскага паштамта за непрыняцце аператыўных мер да ўкамплектавання штату паштальёнаў строга ўказана, а таксама зніжан памер прэмій за 4 квартал.**

# КУЛЬТРАБОТНІКА?

**А. СУРЫНОВІЧ,**
**дырэктар Рэспубліканскага метадычнага кабінета культасветработы Міністэрства культуры БССР**

мянах, напрыклад, работнікі сельскіх клубаў (па групах), кожны тыдзень з'язджаюцца ў раённы дом культуры для навучання практычным навыкам у тым ці іншым жанры самадзейнага мастацтва. У Шчучыне спрабавалі стварыць школу асноў культработы. У Мінскім раёне практыкуюць штомесячныя аднадзённыя нарады-інструктажы. У Слуцку хочуць арганізаваць вучобу асобна для маладых культработнікаў, асабліва для тых, хто мае спецыяльную адукацыю, асобна — для маладых дыпламаваных спецыялістаў, а таксама — для тых, хто працуе ў клубах і бібліятэках.

Што гэта? Пагоня за новай формай? Зусім не. Проста семінары сёння не задавальняюць ні аддзелы культуры, ні культработнікаў. Яны дзе-нідзе ператварыліся ў фармальнае мерапрыемства. А гэта насцярожвае.

Дзе выхад?

Пры сучаснай пастаноўцы навучання ў рэспубліцы наўрад ці мэтазгодна на семінарах вучыць сельскіх работнікаў культуры пытанням тэорыі і метадалогіі клубнай справы, а тым больш ствараць раённыя школы асноў культработы. Гэта найлепш зробяць Рэспубліканскі інстытут і абласныя курсы павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. У іх праграмах прадугледжаны ўвесь аб'ём культурна-асветнай работы, мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці. Цыклы лекцый на грамадска-палітычныя тэмы, інструкцыйна-метадычныя даклады асвятляюць усе формы і метады работы культасветустаноў. Выкладанне вядзецца ў цеснай сувязі методыкі і практыкі. Пытанні тэорыі падмацоўваюцца прыкладамі з вопыту перадавых устаноў рэспублікі. Гэта дасягаецца не толькі цыкламі лекцый, а і заняткамі па абмене вопытам, канферэнцыямі, семінарамі, дакладамі і рэфератамі слухачоў. Увесь курс клубнай справы забяспечваюць кваліфікаваныя спецыялісты, вопытныя практыкі — выкладчыкі ВНУ, метадысты абласных і рэспубліканскіх цэнтраў, работнікі абласных упраўленняў і Міністэрства культуры БССР. Двухмесячны тэрмін ў рэспубліканскім інстытуце і месячны на абласных курсах даюць магчымасць грунтоўна павысіць кваліфікацыю работнікаў культуры раённага і сельскага звяна.

На маю думку, ад раённых семінараў адмаўляцца не варта, але трэба надаць ім новую накіраванасць: каб яны з'явіліся формай прапаганды і распаўсюджання перадавога вопыту клубнай і бібліятэчнай работы, школай прывіцця практычных навыкаў. Новай форме больш адпавядала б назва — школа перадавога вопыту. Чаму школа? Таму, што школа — гэта сістэма вучобы, сістэма выхавання з пэўнай праграмай, пэўным парадкам і рознымі формамі заняткаў: лекцыямі-гутаркамі з абменам думкамі па тэме, з падрабязным разборам пастаўленых слухачамі пытанняў, практычнымі заняткамі, праглядам і абмеркаваннем вучэбна-метадычных мерапрыемстваў, канкрэтным аналізам работы ўстаноў культуры, з шырокім абменам вопытам і г. д. Школа разлічвае на пастаянны склад тых, хто вучыцца, і тых, хто вучыць.

Школы перадавога вопыту патрэбны. Але наколькі яны ўзнікаюць у нас пакуль стыхійна, без дастатковай і грунтоўнай падрыхтоўкі, без падтрымкі і кіраўніцтва з боку абласных упраўленняў і міністэрства культуры, яны не прыносяць дастатковай карысці. Справа дайшла да таго, што ў сёлах пачалі з'яўляцца «галіновыя» школы перадавога вопыту. У адным клубе добра арганізавана атэістычная прапаганда — значыць быць тут школе атэізму, вырашае загадчык. У другім — лепш пастаўлена ваенна-патрыятычная работа — ёсць школа патрыятызму. У чым тады сэнс стварэння такіх сельскіх школ? На думку іх арганізатараў — у тым, каб паказаць, як трэба весці работу па адным з многіх раздзелаў культурна-асветнага профілю. Але каму трэба такая паслуга? Практычна сюды раз у квартал, а то і радзей прыязджаюць людзі па вопыт. І ў той жа час для насельніцтва такі клуб не цікавы, аднабокі. Гэта «навінка» не патрэбная.

Іншая справа: апорныя, паказальныя ўстановы культуры. У раёне яны былі і будуць. Іх ні ў якім выпадку нельга «спецыялізаваць у асобных галінах».

Але вернемся да школ сельскага культработніка. Яны самі сабе пракладваюць дарогу. Застаецца толькі ўзаконіць іх і даць ім дакладны напрамак.

— Вось гэта так — прадбачу пярэчанні аддзелаў культуры.

— А як жа з навічкамі?

Тут варта сур'ёзна падумаць аб практыкумах пры раённых бібліятэках і дамах культуры. Сёння ў гэтым пытанні таксама не ўсё добра. У Гомельскай вобласці практыкумы сельскіх клубных работнікаў пры раённых дамах культуры абмяжоўваюць трыма днямі, у Брэсцкай — давялі да дзесяці. Адны аддзелы арганізоўваюць практыкумы з мэтай вызначыць, ці прыгодны малады чалавек для клубнай работы, і толькі потым вырашаецца пытанне аб яго ўладкаванні на працу. Другія — хочуць атрымаць ужо залічанага ў штат культработніка.

Будзем шчырыя: ці патрэбны падобныя інсцэніроўкі? У сельскі клуб ідуць у абсалютнай большасці ўчарашнія школьнікі. Хто з іх лепшы, хто горшы — цяжка вырашыць за дзесяць, а тым больш за тры дні практыкуму.

У аснове ж сваёй практыкумы — справа вартая. Трэба падумаць аб іх паляпшэнні.

Кадравая праблема ва ўстановах культуры рэспублікі набалелая. Кваліфікаваных культработнікаў у нас мала, асабліва на вёсцы, хоць большасць устаноў культуры — вясковыя. Таму сельскаму культработніку трэба ўдзяляць самую вялікую ўвагу. Калі разумна арганізуем падбор, расстаноўку і вучобу кадраў — поспех у клубнай рабоце будзе.

# З ДАЛІНЫ РУЖ — У КРАЙ ІЛЬНОЎ БЛАКІТНЫХ

*22 мая пачынаюцца Дні балгарскай літаратуры ў Беларусі*

Іван ШАМЯКІН

## САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Гадоў шэсць назад, вярнуўшыся з паездкі па Балгарыі, з дзён беларускай культуры, якія праводзіліся ў брацкай сацыялістычнай краіне, я надрукаваў нарыс, які назваў: «У Балгарыі я — дома».

Гэта было сказана не дзеля эфектнага загалоўка і дзеля прыгожага выраза. Словы гэтыя выніклі з глыбіні сэрца, з усяго таго, што я ўбачыў у Балгарыі, а галоўнае—**што** адчуў. А адчуў я, як, безумоўна, і кожны савецкі чалавек, надзвычайную цеплыню, шчырасць, душэўную еднасць, сапраўды братэрскую любоў усіх балгар — рабочых, сялян, студэнтаў, вучняў, творчай інтэлігенцыі — да вялікага Савецкага Саюза, да народаў нашай Радзімы, іх гераічнай гісторыі, баявой і працоўнай славы, да іх культуры.

Карэнні дружбы і братэрства нашых славянскіх народаў глыбокія і трывалыя. Нас яднае і блізкасць моў, і шматвяковая сумесная барацьба супраць іншаземных заваёўнікаў, і слаўныя старонкі рэвалюцыйнай салідарнасці рабочых былой Расійскай імперыі і Балгарыі, і выступленні балгарскіх працоўных у дваццатых гадах пад уплывам Вялікага Кастрычніка, і барацьба супраць фашызму, баявая слава беларускіх, рускіх, украінскіх, балгарскіх партызан, і верасень 1944 года — векапомная дата вызвалення мужнага і свабодалюбівага народа ад шматгадовага прыгнёту.

Наша братэрства, дружба, сувязі палітычныя, эканамічныя, культурныя непамерна пашырыліся і паглыбіліся, набылі новы змест за гады сацыялістычнага будаўніцтва ў Балгарыі. Плячо ў плячо, у адной шарэнзе ідуць народы Саюза Савецкіх рэспублік, Балгарыі, іншых сацыялістычных краін да адной высокай мэты — камунізма.

Ёсць дзесяткі і сотні красамоўных прыкладаў непасрэдных сувязей паміж Беларуссю і Балгарыяй. Дружаць вобласці і раёны з акругамі НРБ, парадніліся гарады, калгасы, заводы. Пасябравалі паміж сабой многія людзі. Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што асабліва выразна і шырока праявілася дружба балгарскага і беларускага народаў у нашых літаратурных сувязях, якія растуць і мацнеюць з года ў год. Толькі за апошнія дзесяць гадоў у перакладзе на беларускую мову выйшлі творы І. Вазава, Г. Караславава, С. Даскалава, Н. Вылчава, І. Давыдкава, К. Калчава, І. Пятрова, П. Вежынава, А. Стаянава, анталогія балгарскай паэзіі, у якой прадстаўлена больш за пяцьдзесят паэтаў братняй краіны, кнігі для дзяцей, балгарскія казкі, песні і інш. За гэты ж час, дзякуючы працы

Дзімітр АНГЕЛАЎ

## СТАРЫ НОЙКА

**Празаік Дзімітр Стаянаў Ангелаў нарадзіўся 27 верасня 1904 г. Адзін з заснавальнікаў навукова-фантастычнага жанру ў балгарскай літаратуры. Аўтар шэрагу раманаў, у тым ліку і шырокага рэалістычнага палатна «На жыццё і смерць» («На живот и смьерт», 1953) — аб барацьбе прагрэсіўных сіл у Балгарыі супраць рэакцыі і фашызму.**

**Прапануем увазе чытачоў раздзелы з яго новай аповесці «Стары Нойка» («Дядо Нойко»).**

**...Старога пастуха Нойку ўгаворваюць не ісці больш у горы на зімоўку, але ён не згаджаецца...**

**На наш погляд, пісьменніку ўдалося вельмі яскрава паказаць унутраны свет чыстага душой, мужнага і высакароднага чалавека, якога не зламалі нягоды.**

...ВЫЙШАЎШЫ загнаць авечак, стары Нойка падзівіўся на збудаванні, што ўтварылі воблакі на заходзе сонца, і стаў жартам разважаць сам з сабой:

— От каб сесці на якую з тых хмарак! І мякка было б, і відаць была б уся зямля: і горы, і гарады, і моры. Хоць бы раз глянуць на тое мора, бо то ж толькі чуў пра яго. Звязаўся я тут з гэтымі дурнымі авечкамі... Вось вазьму ўлетку ды махну на мора, толькі не дай бог утапіцца...

Пакуль накарміў авечак, пакуль прыбраў рэшткі сухога вецця ды насек сучкоў на падпалку, вячэрняя зара пагасла і над далінай навіслі сцюдзёныя прыцемкі.

— Ну што, Яварчык, надвор'е псуецца,— загаварыў стары да сабакі, паглядаючы з парога на хмары, якія збіраліся над хрыбтом.— Можа снег пайсці, глядзі, што сёння пачнецца. І калі мы з табой пабачым яснае сонейка?

Сабака, які цёрся каля ног, падцяў хвост і паныла апусціў галаву: кожны раз, як на даліну апускаўся вечар, у яго падаў настрой.

— Хопіць табе бібікі біць. Як падваліць снегу, давядзецца табе, браце, пракладваць сцежкі,—гаварыў стары Нойка, гладзячы сабаку.— Ты не думай, што ўсё я павінен рабіць, а ты будзеш толькі адлежвацца ля цёплай печы.

...Сцюдзёны вецер, які ўсхадзіўся быў па заходзе сонца, улёгся. Запанавала вакол глухая ціш і нерухомасць, і аднекуль знізу, з даліны, пачало падкрадвацца нешта таемнае і вусцішнае. Явар дрыжэў і ціснуўся да старога.

— Ну чаго ты плішчышся да мяне, га?—выгаворваў яму Нойка.—Удзень жа ты вунь які смелы і брэшаш, калі трэба і не трэба. Вось ідзі, абяжы аўчарню, збегай у лес, паглядзі, можа дзе воўк паблізу ходзіць, чакае, пакуль мы заснём. На тое ж ты сабака, на тое ж я і ўзяў цябе, каб сцярог і мяне, і авечак. А што выходзіць? Выходзіць, што не ты, а я цябе павінен сцерагчы ад ваўкоў і начных страхаў...

Стары гаварыў з лагоднай насмешкай, а сабака туліўся да яго, быццам хочучы сказаць, што прызнае за ім права асуджаць і пасміхвацца. Таму, што, хоць ён і сабака, але сапраўды пабойваецца гэтай цемры, што паўзе знізу пачварай, якімсьці зверам, падобным на мядзведзя; што гэты страх у яго ў крыві яшчэ з таго часу, калі чалавек прыручыў сабаку, каб разам бараніцца ад драпежнікаў, і таму ён шукае падтрымкі ў яго, старога Нойкі, і таму ён такі паслухмяны і пасабачы адданы...

Далёка ўнізе, неакрэсленыя ў чорным змроку, мігцелі агеньчыкі чалавечага жытла. У цёмнай далечыні на поўдні свяцілася вялікае зарыва. Бліжэй, паміж маладых дубкоў, што былі пасаджаны ўздоўж ніжняй мяжы горнай пашы, недзе ля падножжа гор, былі відаць ззяючыя гірлянды электрычных агнёў Бежанава.

Зарыва на даляглядзе і залатыя россыпы ўнізе падкрэслівалі пустэльнасць і гордую велічнасць гор. Але стары аўчар любіў вячэрнюю цішыню і маўклівасць. Яго агортвала нейкае ціхае і радаснае сузіранне, і ён аддаваўся марам і думкам. У яго галаве ўзнікалі тысячы пытанняў аб жыцці і свеце, аб прыродзе і людзях. Здаўна ён ужо не верыў ні ў якога бога і ўсё ж не мог толкам зразумець, як утварылася зямля, яму хацелася даведацца, адкуль узяліся зоркі на небе і колькі іх. Ён прымаў напавер, што зямля круціцца, усе так гавораць, але не мог даўмецца, чаму і ён, і ўсе навокал у такім разе не круцяцца. Не разумеў ён і таго, як голас чалавека сягае аж з Сафіі ці яшчэ мудрэй — з іншай дзяржавы і трапляе ў скрынку радыёпрыёмніка—нават калі дзверы і вокны зачынены. Вельмі хацелася яму таксама разабрацца і ў той чортавай электрыцы, і ў тэлевізары...

Неяк раз малады заатэхнік хацеў расказаць яму пра электрычнасць, пра тое, як яна перадаецца па правадах. Спрабаваў ён растлумачыць, і як працуе радыё, ды стары нічога не зразумеў і спыніў яго з жаласнай усмешкай:

— Дзе мне раскумець гэта, таварыш заатэхнік. Да другога аддзялення толькі і дайшоў у навуцы.

— Трэба было вучыцца далей, дзядзя Нойка! — пажартаваў хлопец.

— Як было вучыцца ў той беднасці...

— Значыць, рана нарадзіўся, дзядуля, га?

— Рана, дзіцятка, дужа рана...

Стары Нойка ўспомніў размову з заатэхнікам, успомніў і сваю былую горкую долю, і задумаўся пра цяперашняе жыццё...

— Дальбог жа, Кралімаркаўскія дзівосы,— разважаў стары сам з сабой.—Цяпер жа ўсё лепш не трэба, усе жывуць багацей за найбагатага ранейшага чарбаджыя. А хто знае, як яно будзе гадоў праз дваццаць ці трыццаць? Вось толькі я ўжо не ўбачу таго. Вось каб можна было ўстаць хоць на адну хвіліну, толькі каб паглядзець, што людзі прыдумалі і зрабілі, тады зноў заснуць... Пройдзе яшчэ гадоў дваццаць — і зноў на хвіліну ўваскрэснуць...

Стары Нойка амаль што паверыў, як ён пасля смерці праз кожныя дваццаць-трыццаць гадоў будзе «на хвіліну» ўваскрасаць. Яму ад гэтай думкі стала весела на душы...

Пасля вячэры Нойка падкінуў у печ некалькі дубовых аскабалкаў, прылёг у шкарпэтках на шырокі палок і, прыкруціўшы ў лямпе агонь, уключыў радыё.

— Цяпер можна і музыку паслухаць, Яварчык!— сказаў да сабакі, які ўжо расцягнуўся каля печы.— Трэба і нам да культуры прывыкаць...

У пакоі было цёпла і пахла алеем. З кладоўкі, дзе стары захоўваў прыпасы, ішоў водар яблыкаў і вяндліны. Па сценах і столі гулялі водбліскі агню, сыраватыя дровы пастрэльвалі, на іх канцах выступаў і шыпеў дубовы сок, дадаючы свой пах да пахаў пакою. Усё гэта настройвала старога на прыемную ляноту. Неставала ці, як кажуць туркі—эксік,— толькі добрай народнай песні. Але па радыё скрыпкі «пілікалі» нейкую пісклявую мелодыю, пасля яно пачало гаварыць на незразумелай мове, і стары не вытрымаў, перадражніў:

— Тары-бары... Не разумею я тваёй гаворкі, чалавеча! Што ж зробіш, калі, кажуць людзі, тысяча моў на свеце, а яшчэ аджыло іх колькі. Па мне хай бы зніклі ўсе мовы, а засталася толькі адна, каб разумець і італьянцаў, і англійцаў, і французаў. Тады б, можа, і войнаў не было, і ўсе на зямлі мелі тое, што маем мы, балгары...

Пасля аксамітны жаночы голас зацягнуў усё-такі песню, якая старому прыйшлася па душы. Каханка ці нарачоная—ён добра не разабраў—дужа сумавала па хлопцу, які паехаў у свет здабываць шчасце. Каханка ці нарачоная клікала яго, прасіла-маліла:

Адгукніся, мілы, дзе ты, я не знаю,
Ой, мяне загубіць разлука ліхая...

Песня вельмі расхвалявала старога Нойку, а хлопец з песні нагадаў яму даўняе мінулае, калі і яго беднасць выправіла з дому парабкаваць. Не быў дома ён цэлую восень і цэлую зіму, і толькі ў канцы вялікага посту заможны селянін, у якога ён служыў, адпусціў яго на два дні. І каня даў з'ездзіць. Выехаўшы ў поле і застаўшыся адзін, малады Нойка заспяваў. І ў яго, як у таго хлопца, папаха збілася набок, і ён тады ляцеў, як вецер, да каханай... Была ранняя вясна. Над палямі дыміўся лёгкі туман, на ўсходзе разгаралася зара. Раніца дыхала свежасцю, і сэрца Нойкі трымцела ад радасці. Ён прышпорваў каня, тоцкаўся ў сядле і спяваў. Спяваў аб Мілене...

Яны былі далёкімі сваякамі, яе бацька кожны год ад сенакосу да малацьбы прасіў яго дапамагчы па гаспадарцы, і, бывала, застаўшыся з ім сам-насам, яна горача шаптала: «Які ты дужы і прыгожы! Каб не твая беднасць...» У яго тады займала дух, ён, не помнячы сябе, спрабаваў абняць яе і толькі паўтараў: «Мілена, Мілена...» Дзяўчына спрытна вылузвалася з яго абдымкаў і з палахлівым выглядам ускрыквала: «Ой, што ты! Яшчэ ўбачыць хто...» Нойка пакорліва апускаў рукі, а Мілена спакойна дадавала: «Нельга, мы ж радня». Можа, яна проста дражнілася з ім, жартавала? Ды і ён усур'ёз не мог думаць пра жаніцьбу: яе бацька ні за што не аддаў бы адзіную сваю дачку за такога гарапашніка, як Нойка. І куды б ён узяў яе, што ён мог даць ёй, акрамя беспрасветнай нястачы і беднасці? Не выганяць жа маці, гаротную ўдавіцу, з адзінага пакойчыка, дзе яна жыла...

Але маладосці заўсёды спадарожнічае надзея. Нойка таксама спадзяваўся на лепшае. Адзін час ён захапіўся пошукамі схаваных даўней скарбаў, ды не быў шчаслівейшы за іншых. Нарэшце вырашыў наняцца ў парабкі, спадзеючыся зарабіць грошай і прыбудаваць да матчынай хаціны яшчэ адзін пакойчык. Можа тады... Што «тады» — ён і думаць баяўся...

У апошні раз яны развіталіся ля задніх веснічак шырокага міленінага двара. Быў цёплы асенні вечар. Мілена какетліва пагражала: «Толькі пасмей з якой-небудзь там... Чуеш? Ты павінен думаць толькі пра мяне. Я буду чакаць...»

Мілена не дачакалася яго. Мілена здрадзіла. Яна не змагла запярэчыць бацьку і выйшла замуж за нейкага купчыка. Маці расказвала пасля—і якое багатае вяселле справілі, і як Мілена развітвалася з бацькамі і раднёй, як плакала і на яе плячы...

На другі ж дзень раніцай Нойка паехаў з Бежанава. Але, едучы назад, ён ужо не спяваў, а плакаў. Плакаў

нашых сяброў, балгарскія чытачы шырока пазнаёміліся з паэзіяй Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, А. Вялюгіна, Р. Барадуліна, з маладой беларускай паэзіяй, якая выйшла асобнай кнігай, з раманамі і аповесцямі Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава, А. Адамовіча і іншых нашых празаікаў. У балгарскіх тэатрах пастаўлены п'есы К. Крапівы, А. Макаёнка, В. Вольскага, А. Маўзона.

22 мая ў Беларусі пачынаюцца дні балгарскай літаратуры. Саюз пісьменнікаў Беларусі, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, аддзяленне таварыства «СССР — Балгарыя» пад кіраўніцтвам і з дапамогай партыйных органаў рыхтаваліся да правядзення гэтых дзён. як да свята нашай дружбы. Такая сустрэча напярэдадні вялікай падзеі ў жыцці савецкіх народаў — 50-годдзя ўтварэння СССР, напярэдадні юбілеяў нашых народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа набывае асаблівы інтэрнацыянальны, палітычны і культурны сэнс.

З радасцю чакаем мы прыезду гасцей — дэлагацыі Саюза пісьменнікаў Балгарыі. Імёны Дзімітра Ангелава, Найдана Вылчава, Івана Давыдкава і Андрэя Германава добра вядомы літаратурнай грамадскасці Беларусі. Гэта нашы добрыя і даўнія сябры, актыўныя перакладчыкі твораў беларускай літаратуры на мову свайго народа. Сустракаючы іх на нашай гасціннай зямлі, ад шчырага сэрца кажам ім:

— Калі ласка, дарагія браты і сябры!

— Добре дошли, скъпи другари и братя!

---

горкімі слязьмі, усхліпваючы, як дзіця: «Мілена, Мілена! Чаму ты мяне ашукала, Мілена!»

І не мог даравацъ сабе, што паверыў, быццам яна магла выбраць парабчанскую няволю замест багацця...

Выключыўшы радыё і пагасіўшы святло, стары Нойка глядзеў, як паступова знікаюць водбліскі дубовага жару на сценах і столі, і раз-пораз уздыхаў: як даўно тое было і як яно ўсё помніцца...

Ён вярнуўся ў Бежанава толькі праз два гады, і маці ўгаварыла яго жаніцца. Але жонка пажыла нядоўга, ён зноў пакінуў сваё роднае сяло, наняўшыся непадалёку пастухом. Пасля ён толькі зрэдку наязджаў праведаць маці, а як памерла яна, горы сталі яму і сялом, і домам...

Стары Нойка заснуў позна, і яму прыснілася лета. Быццам у двары яго новай хаты расцвілі кветкі. Здаецца, шмат розных кветак, а на падаконніках у гаршчочках — вазоны: гіяцынты, герані. Ён быццам бы едзе з далёкіх заробкаў, адчыняе вароты і бачыць Мілену, якая сядзіць на парозе. Сумная сядзіць, журботная, і спявае:

Адгукніся, мілы, дзе ты, я не знаю,
Ой, мяне загубіць разлука ліхая...

Раптам аднекуль выскачыў вялізны шэры воўк з лабастай галавой і вушамі тырчком. Прысеў ён сярод двара і завыў: ау-у-у!..

Гэтае жудаснае выццё і разбудзіла старога. Ён спалохана саскочыў з палка. У коміне печы выў вецер, на двары нешта глуха грукатала. У вокнах было бела: у паветры шалёна насіліся буйныя сняжынкі.

— А, я ж табе казаў! — прыпомніў стары Нойка, гледзячы, як за акном шалела завіруха і злосна дзынкаў у шкло сухі снег. — Казаў жа табе, што надвор'е сапсуецца? Але няхай...

Пад уражаннем таго, што пабачыў у сне, у свядомасці ўзнікла ўпартая ўпэўненасць, што ноччу драпежнік трапіў у пастку. Упэўненасць гэта была такой поўнай, што ў душы ён адчуваў помслівае пачуццё перамогі.

— Цяпер ты разлічышся за ўсё,— гаварыў стары Нойка, хутка збіраючыся. — Толькі б ты быў яшчэ жывы, каб я хоць душу адвёў, каб ты мне даў адказ: колькі ты авечачак загубіў, колькі козачак, колькі зайчыкаў звёў...

Ён порстка зачыніў за сабой дзверы, каб не выскачыў сабака — хай сабе брэша там, — абагнуў аўчарню і накіраваўся праз луг да схілу гары. Вецер з дзікай сілаў кінуўся яму насустрач, снег балюча сцебануў па твары, наўкола ўсё гуло і грымела.

— Не дурыся так ужо, хай цябе!— пасварыўся ён на буру, націскаючы камілаўку на вочы. — Можа табе хацелася б, каб я вярнуўся назад, але гэтага ты не дачакаешся! Мяне Явар засмяе... Ты снегу не вельмі накідвай, мне ж рабіць трэба...

(Заканчэнне на стар. 12—13)

## Дзімітр МЯТОДЗІЕЎ



# КАЛІ ЖЫЦЦЯ МІНАЕ ПАЛАВІНА

Даўно,
яшчэ дзесь у пару маленства,
у першыя гады ад нараджэння,
як адзінокі першаадкрывальнік,
я, стаўшы сам-насам перад сусветам,
занепакоена пытаўся часам:
— Дзе днюе ноч
і дзе начуе
дзень!..

Маленства бегла ўдаль.
І ў незамутнелай
душы, прыціхлай у чаканні Ісціны,
бы ў люстры,
падаючы,
адбіваліся
і першыя лісты
і зоркі першыя,
што абуджалі першых прадчуванняў
недаўгавечныя кругі...
І вось —
пацёкшы з непрыкметнае крынічкі
імклівы ручаёк
бяжыць,
імчыцца,
і дні і ўсе пытанні несучы
па неспакойных стромах маладосці;
накідваючыся на перашкоду,
кіпіць,
грыміць,
спрабуе змыць з дарогі
і — аббягае ўкруг скалы,
знясілена.

І зноў —
сабраўшы ўсе струмені й пырскі —
ён з пены гневу ўласнага ўваскрэсне
і да наступнай перашкоды рвецца...

І так жыцця мінае палавіна —
уга як до,
каб болей не пытацца,
дзе днюе ноч
і дзе начуе
дзень...

О, ты ўжо сталы. Ты ўжо
добра знаеш,
што Сонца — вечная святла крыніца,
а нашая Зямля ёсць толькі цела,
што круціцца вакол уласнай восі
і кідае рухомы цень...

І ты
спакойна, падавіўшы пазяханне,
праходзіш міма таямніц і цудаў
быцця і небыцця.

І ты—разумны—аббягаеш скалы
і ў рэчышчы шліфуеш
камяні...

Пакуль
бяссоннай ноччу нейкай у душы
не адаб'юцца раптам тыя хмаркі,
што над бацькоўскай хатай прабягалі
ва ўсе бакі, ва ўсе напрамкі свету,
і, уваскросшы, не ўсплыве са дна
дзіцячае пытанне — тое самае,
і ў цемнаце табе ізноўку здасца,
што ўжо ніколі больш не развіднее
і што заўсёды будзе цёмна,
калі Дзень не пераначуе
і раніцы не прычакае
у цябе...

Ах, як жа гэта нам усё знаёма!
Прыпынімся на момант у віры.
І паглядзімся.
І занепакоімся...
І зноў —
плывем, плывем, плывем...

Віроў жа застаецца менш і менш
на шляху ад крынічкі той
да мора...

Пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.

## Дзімітр ПАНЦЯЛЕЕЎ



# ЗНОЙДЗЕНЫ ЧАЛАВЕК

Дождж шумеў
безупынку ўсю ноч,
усю ноч ручаі плылі.

Раніцай на сенавале
дзеці мужчыну знайшлі.

Зацярушаны сенам,
з усмешкай,
стаяў сярод нас.
Цёпла, сардэчна
гучаў яго мяккі бас.

Схапіўшы каромысла,
вады прынёс два вядры.
Над ім трапяталі
дзве птушкі
І зорка ўгары.

Выпіў шклянку густога віна,
хлеба свежага з'еў
і з сабой кавалак узяў.
А як зваць — не прызнаўся,
«Прапашчы я», —
толькі сказаў.

Божа,
колькі «прапашчых» людзей
у наш век на зямлі!
Сёння раніцай дзеці
аднаго чалавека
знайшлі.

Пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.

## Найдан ВЫЛЧАЎ



# БЭЗАВЫ ВЕЦЕР

Разгайдаўся бэз ліловы —
і плыве вясновы пах
па нізінах і дубровах,
па садах і гарадах,
разамлелаю дарогай,
падсініўшы небакрай,
малады і басаногі,
напрасткі спяшае май.

— Гу-гу-гууу! — гугукне голуб,
затрымаць захоча май:
— Не махай духмяным голлем,
прыпыніся, пачакай!
Рэчка кінецца насустрач,
забалбоча звонка плынь:
— Не спяшайся гэтак шустра,
лепей вудачку закінь...

Ды, спыняемы усімі
і не спынены нікім,
май бяжыць, нястрымны, сіні,
залаты і трапяткі,
свішча весела ў антэнах,
на ляту ўхапіць гатоў,
нібы скакуноў стаенных,
грывы мяккія жытоў.

Свецяць срэбныя ракіты,
вечны гімн жыцця вядзе
хор дзяціны басавіты —
хто ў калысцы, хто ў гняздзе,
па нізінах і дубровах,
па садах і гарадах
вецер бэзавы, ліловы
носіць хмельны майскі пах.

Пераклаў Генадзь БУРАЎКІН.

## Андрэй ГЕРМАНАЎ



# ХІТРУН

Рашылі, што я хітры вельмі,
што найкаварнейшы за ўсіх...
Калі ж не бачаць ва мне шэльмы —
яны збянтэжацца на міг.

І ўжо з адчаем і апаскай
пачнуць шаптацца: «Ну і ну...»,—
калі паставяць сотню пастак,
а я не траплю ні ў адну.

Тлумачу ім: самому дзіўна,
што на прынаду не «клюю».
Тлумачу: вам бы дагадзіў я,
ды хітрыкаў не прызнаю.

Тлумачу ім. Дзе іх увага!
Тлумачу: я не падману!
Яны ў адказ мне:
— Ха-ха!
— Ха-ха!
— Ха-ха!
— Ха-ха!
Ну і ну!

Гляджу на іх атарапела.
Ад жаху не знаходжу слоў.
І тут яны рашаюць пэўна,
што я — найбольшы з хітруноў.

Пераклаў Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

## СУСТРЭЧЫ СЯБРОЎ



НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ: Міхась Калачынскі, Стаян Даскалаў, Ліляна Даскалава, Пімен Панчанка (1957 год).



НА БАЛГАРСКАЙ ЗЯМЛІ: (сядзяць) Арлін Васілеў, Младэн Ісаеў, (стаяць) Ніл Гілевіч, Леанід Собалеў і Дзімітр Мятодзіеў (1963 год).

# ЯЕ ВЯЛІКАСЦЬ ПЕСНЯ

*АЎТАРСКІ КАНЦЭРТ ІГАРА ЛУЧАНКА*

У Беларускай філармоніі працягваюцца аўтарскія канцэрты кампазітараў рэспублікі, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР. Днямі справаздачу перад слухачамі трымаў лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Ігар Лучанок.

На гэтым канцэрце гаспадарыла песня. Гучалі творы сольныя і харавыя, эстрадныя і кантатна - араторыяльныя. Шкада, вядома, што на вечары не былі прадстаўлены аркестравыя і камерна - інструментальныя творы кампазітара, але тым не менш канцэрт пакінуў прыемнае і цэласнае ўражанне, бо менавіта ў песні, мусіць, найбольш поўна раскрываецца глыбіня і абаяльнасць таленту І. Лучанка.

Песні Лучанка можна ўмоўна падзяліць на лірычныя і героіка-патрыятычныя. Лірычным яго творам уласцівы глыбокі псіхалагізм, прастата і выразнасць, імкненне максімальна злучыць музыку са словам. У гераічных — цяга да яркай экспрэсіі, рэльефнай тэатральнай вобразнасці.

Магутнай застаўкай да канцэрта быў лірычны гімн «Ён нарадзіўся вясной», у якім узнёсла расказваецца пра любоў народа да Уладзіміра Ільіча Леніна (выканаўцы — эстрадна - канцэртны аркестр і хор Беларускага тэлебачання і радыё, кіраўнікі Б. Райскі і В. Роўда). Гэта—адзін з самых значных і ўдалых твораў беларускай музычнай Ленініяны. Поспеху песні ў многім садзейнічала шчырасць, эмацыянальнасць саліста А. Падгайскага.

Мы прызвычаіліся да «лірычнага» таленту спявачкі Т. Раеўскай. На гэтым жа канцэрце выявіліся новыя рысы яе даравання. Яна выканала баладу-рэквіем «Сустрэчы», прысвечаную героям югаслаўскага Супраціўлення. Прагучала гнеўная песня пратэсту супраць вайны і фашызму. Пругкі маршавы рытм, у якім напісаны твор, служыць сродкам скразнога дынамічнага развіцця вобраза. А натуральны сплаў моўных і песенных інтанацый узмацняе суровую плакатную выразнасць песні.

Гераічны рэпертуар прадставіў на канцэрце і В. Кучынскі. На добрым прафесійным узроўні, тэмпераментна і арыгінальна выканаў ён песні «Чырвоныя зоркі», «Камсамольскае юнацтва», «Песню аб камсамольскіх ардэнах».

«Памяць сэрца» ў выкананні В. Вуячыча добра вядома ва ўсёй краіне. Але кожнае новае выкананне яе прыносіць сапраўдную радасць аматарам песні. В. Вуячыч выканаў таксама песню «Калі б камні маглі гаварыць», якая была напісана да адкрыцця Брэсцкага мемарыяла. У ёй зноў на поўную сілу прагучала тэма, уласцівая ўсёй творчасці Ігара Лучанка, — героі не паміраюць. Творчая садружнасць, якая звязвае І. Лучанка з В. Вуячычам ужо многа год, прыносіць новы і новы плён.

Лірычны цыкл на канцэрце быў прадстаўлены песнямі «Верасы», «Журавы на Палессе ляцяць», «Майскі дождж» і іншымі (выканаўцы — В. Вуячыч, В. Кірычэнка і хор хлопчыкаў Цэнтральнай музычнай школы пад кіраўніцтвам І. Жураўленкі). На жаль, дзіцячаму калектыву не хапала непасрэднасці, гарэзлівасці, гумару, словам, тых свежых фарбаў, якія знайшоў для сваёй музыкі кампазітар.

На канцэрце прагучаў шэраг песень, напісаных кампазітарам спецыяльна для вакальна - інструментальнага ансамбля «Песняры» (мастацкі кіраўнік Ул. Мулявін). З трагічнай пранікнёнасцю выканаў ансамбль рэквіем ахвярам бесчалавечнай жорсткасці фашызму — «Хатынь». Дзень і ноч гучаць хатынскія званы над зямёй, дзе жыццё мірных жыхароў было абарвана страшэнным злачынствам. Пра гэта расказвалі «Песняры», трымаючы залу ў напружанай цішыні.

Упершыню пазнаёміліся слухачы з песнямі І. Лучанка «Спадчына» і «Каханне» на словы Янкі Купалы і Якуба Коласа. На дзіва прыгожая мелодыя «Спадчыны»— па-купалаўску простая і сумная, як спеў жалейкі. «Песняры» яшчэ раз паказалі, якім цікавым можа быць у эстрадным ансамблі спалучэнне чыста «бітавых» і народна-выканаўчых элементаў.

Прагучалі на канцэрце і вакальныя творы буйнай формы — «Балада аб Мінску» і кантата «Невядомы салдат». Іх выконвалі салісты Г. Ваяводзіна, М. Здановіч і А. Падгайскі, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла пад кіраўніцтвам У. Раговіча, ў суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР (дырыжор Ю. Яфімаў). Балада зачаравала слухачоў лірычным хараством, напеўнасцю... Кантата ж пры ўсіх яе добрых якасцях (вострай драматургіі, мелодыцы, якая спалучае ў сабе моўныя і песенныя інтанацыі) прагучала суха і малавыразна.

Аўтарскі канцэрт прайшоў з вялікім поспехам. Мы яшчэ раз мелі магчымасць пераканацца, што ў Беларусі жыве і працуе таленавіты мастак, які па-сапраўднаму любіць і разумее песню. А творчы запал, з якім працуе І. Лучанок, дае падставы меркаваць, што яго галоўная песня — яшчэ наперадзе.

**Н. РАДОЎСКАЯ.**



Удзельнікі канцэрта — вядучы У. Шаліхін, спявак В. Кучынскі, кампазітар І. Лучанок, спявак А. Падгайскі і мастацкі кіраўнік хору Беларускага тэлебачання і радыё В. Роўда.

Фота Ул. КРУКА.

*Будзем знаёмы!*

## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ



*Алесь Емяльянаў нарадзіўся ў вёсцы Забалацце, непадалёку ад Чавусаў. Закончыў сярэднюю школу, вучыўся два гады ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, а цяпер служыць у Савецкай Арміі. У рэспубліканскім друку выступае ўпершыню.*

●

Зямлі я роднай прыгаршчы
трымаю.
І сэрца ўсхвалявана б'ецца.
Вось ён —
Кавалак цеплыні,
Пяшчоты,
Дабраты.
Нічога даражэй няма,
Здаецца, сонца
У руцэ трымаю...

●

Яны не ведалі, чаму
Загналі іх у пуню гэту...
Дзіця ля матчыных грудзей
Сагрэта.
Ружовы сон глядзіць...
А кулямёт дрыжыць...
Пражэрлівы агонь
Вуглы ў гарачцы абхапіў,
Крывёй і стогнамі ваколле
напаіў.
Спалохана жанчына
Рукой знямелай засланіла
сына...
Замоўклі крыкі. Цішыня
На папялішча жудасная ўпала.
Крывёй акропленая
Зара вясновая
Ўзышла над вёскаю
Маленькаю, бязвіннай, —
Вялікай ў трагедыі сваёй...
О, вёска!
Камінoў палоска,
Якія звоняць цішыні.

### ДЗЯЦІНСТВУ

Гляджу я ў акно
Пражытых гадоў
І бачу дзяцінства сваё,
Пад сонцам,
Сагрэтае смехам,
З вясёлымі думкамі,
Марамі першымі,
Яно—
То кіне сняжком,
То чаромху ламае,
То ранняй вясной
Баязліва
З нагамі прамоклымі
Ціха, крадком
Да маці ідзе...
Як за шклом успамін.
Я бачу цябе
І сумую,
Таму што ніколі
Шчакой
Матуліных рук не крануся.

### СЛЁЗЫ СТРЭХ

Дзынкаюць, дзынкаюць
З ранку да вечара
Слёзы вясны,
Слёзы стрэх.
Я ж не сумую,
Туга не калечыць
Мой веснавы,
Цудоўны настрой.
Я ўсміхаюся
Белай бярозе...
Чаму сумаваць мне,
Чаму?
Дзынкаюць слёзы? —
Радасці слёзы!—
Вясны ў нашым краі.

## ВЕЧАР ЛІРЫКІ КАХАННЯ

Днямі ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся чарговы вечар беларускай паэзіі. Такія сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з аматарамі паэзіі ўвайшлі ў традыцыю. Слухачы добра памятаюць вялікі поспех вечара беларускай сатыры і гумару, аўтарскага вечара паэзіі з удзелам вядучых сучасных паэтаў рэспублікі, творчы вечар вядомага беларускага празаіка Івана Шамякіна.

Вечар любоўнай лірыкі—такая паэтычная назва апошняга вечара. Яна прывабіла шмат удзячных прыхільнікаў лірыкі. У зале сабралася пераважна моладзь. Паэты Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Аляксей Зарыцкі, Уладзімір Паўлаў, Пятрусь Макаль, Вера Вярба прачыталі свае новыя вершы. Атмасфера сяброўства і ўзаемаразумення ўсталявалася ў зале. Пісьменнікі вялі цікавую гутарку аб літаратуры, адказвалі на пытанні слухачоў.

Цёпла і сардэчна прайшоў гэты вечар. Па жаданню аматараў літаратуры ў хуткім часе адбудзецца вечар народнага паэта Беларусі Максіма Танка—у сувязі з яго 60-годдзем: традыцыя аўтарскіх сустрэч будзе прадоўжана.

# УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСЕ!

Міністэрства культуры і праўленне Саюза пісьменнікаў БССР праводзяць (з сакавіка 1972 па люты 1973 года) рэспубліканскі конкурс на лепшы твор атэістычнай тэматыкі — шматактовую і аднаактовую п'есы, сцэнарый для агітацыйна-мастацкіх брыгад, апавяданне і фельетон на атэістычную тэму. На конкурс прымаюцца арыгінальныя творы, якія не ішлі на сцэне, не друкаваліся ў газетах і часопісах і не перадаваліся ў тэлевізійных і радыёперадачах.

Для заахвочвання аўтараў устаноўлены прэміі:

за лепшую шматактовую п'есу: першая прэмія — 1000, другая — 500, дзве трэціх — па 300 і дзве заахвочвальныя — па 100 руб;лёў.;

за лепшую аднаактовую п'есу: першая прэмія — 500, другая — 300, дзве трэціх — па 200 і дзве заахвочвальныя — па 75 руб.;

за лепшы сцэнарый для агітацыйна-мастацкіх брыгад: першая прэмія — 400, другая — 250, дзве трэціх— па 150 руб.;

за лепшае апавяданне: першая прэмія — 300, другая — 200, дзве трэціх — па 150 руб.;

за лепшы фельетон: першая прэмія — 200, другая— 150 і дзве трэціх — па 100 руб.

У склад журы гэтага конкурсу ўвайшлі: намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін (старшыня), драматург А. Макаёнак (намеснік старшыні), галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР А. Саннікаў (намеснік старшыні), пісьменнікі А. Бажко, І. Грамовіч, К. Губарэвіч, П. Макаль, А. Петрашкевіч, І. Пташнікаў (члены журы) і іншыя.

Рукапісы твораў пад дэвізам трэба дасылаць у Міністэрства культуры БССР з адзнакай «Конкурс на атэістычную тэму». Адначасова ў закрытым канверце паведамляецца прозвішча аўтара, яго імя і імя па бацьку, указваецца прафесія, месца работы і адрас. Канверты з прозвішчамі аўтараў будуць ускрыты праз месяц пасля апублікавання вынікаў конкурсу.

Лепшыя творы будуць набыты Міністэрствам культуры БССР або надрукаваны ў перыядычных выданнях Саюза пісьменнікаў БССР.

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы смуткуе з прычыны заўчаснай смерці загадчыка пастановачнай часткі тэатра ЛАПІДУСА Міхаіла Рафаілавіча і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Калектыў кінастудыі «Беларусьфільм» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару творчага аб'яднання «Летапіс» Белавусу Івану Данілавічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.**

# А ХТО БЫЎ МАСТАКОМ У «ГАЛУБКОЎЦАЎ»?..

Яўген ЦІХАНОВІЧ

У СІМ ВЯДОМА, што Уладзіслаў Галубок быў артыстам і драматургам, арганізатарам «тэатра на колах», яго дырэктарам і рэжысёрам. Вядома нават, што ў вольны ад работы час ён пісаў краявіды. Але мала каму вядома, хто быў доўгі час у тэатры мастаком—хто пісаў «заднікі», хто рабіў эскізы вопраткі, бутафорыю, хто наносіў першы грым артыстам.

Нельга было ўбачыць на «афішах» таго часу і прозвішча мастака, якое звычайна стаіць побач з імем рэжысёра. Але мастак быў у кожным спектаклі.

Зразумела, самі артысты добра ведалі свайго мастака. Яны верылі: ніхто другі не можа лепш намаляваць заднік ці пакласці грым артыстам у «прэм'еры», чым гэта зробіць сам дзядзька Галубок.

Не было патрэбы запрашаць дзеля гэтага абавязку каго-небудзь іншага. А прозвішча мастака на афішах не адзначалася, мабыць, таму, што пісаў іх сам Галубок.

Увогуле кожны артыст меў даволі многа абавязкаў апроч ігры. Так, напрыклад, артыст Бусел добра ведаў сталярную справу, артыст Чайлытка ўмеў добра вышываць беларускі арнамент на кашулях і ручніках, многія ўмелі ткаць, шыць і вязаць. Былі майстры імітацыі гукаў розных жывёлін або звяроў, як, напрыклад, артысты Блажэвіч і Згіроўскі. Менавіта ў тэатры Галубка пачаў сваю дзейнасць музыкі і кампазітара славуты Нестар Сакалоўскі.

Краявіды роднай прыроды на задніках, якія ўпрыгожвалі ледзь не кожны спектакль, Уладзіслаў Галубок пісаў клеевымі фарбамі.

Галубок, акрамя работы для тэатра, займаўся яшчэ і пейзажным жывапісам, і трэба сказаць, так грунтоўна, што для каго іншага такая праца магла стаць асноўным заняткам, прафесіяй. Гэты чалавек заўсёды здзіўляў сваёй невычарпальнай энергіяй, якой хапіла б на добры дзесятак, а ён адзін знаходзіў час рабіць усё для тэатра і нават яшчэ займацца станковым жывапісам.

Прыгадаем больш падрабязна, што цікавіла Галубка-мастака паза межамі тэатра, калі ён заставаўся сам-насам з прыродай, якую любіў бязмежна.

Галубок меў сваю «тэму». Ён, напрыклад, не раз казаў мне, што прыроду трэба назіраць штодзённа, але браць ад яе толькі тое, што здараецца не часта і не працяглы час, а нейкае імгненне, як, скажам,—непаўторнае неба перад навальніцай, ці лірычны веснавы разліў рэк, ці крыгаход, ці буйны вецер—буралом, ці туманы Палесся.

Трэба, казаў ён, шукаць упарта не ў майстэрні, а ў жыцці. У самой прыродзе шукаць таго адзінства процілегласцей, без чаго не можа быць ніводнага мастацкага твора.

Мы бачым, што словы зыходзілі з творчай практыкі мастака і былі падмацаваны тымі палотнамі, што насілі назвы—«Разліў», «Буралом», «Туманы», «Раніца», «На рацэ Бярозе», «Верасы», «Плытагоны», «Першы снег», «Адліга», «Сакавік», «Пахмурны дзень» і г. д.

Цікава, што пейзажыст не паўтараў знаёмыя матывы, а кожны раз знаходзіў новыя. Галубок на дзіва ўдала абіраў «сюжэт» у пейзажы, ніколі не затрымліваючы сваю ўвагу на другарадных ці фрагментарных «куточках», заўсёды даючы ландшафтны позірк на шырокія рэкі, палі, азёры. Эпічнасць, размах і манументальнасць добра спалучаліся ў мастака з лірычнасцю, цеплынёй і нават—пяшчотнасцю. Усё залежала ад задумы.

Не відаць было ў яго пейзажах чалавечых постацей, але заўсёды адчувалася прысутнасць людзей.

Мне пашчасціла бачыць гэтыя творы на шэрагу рэспубліканскіх выставак, якія ў той час праводзіў Наркамасветы, а таксама на асабістай выстаўцы Галубка ў зале даваеннага Дома пісьменнікаў на Савецкай вуліцы.

Нейкі час існавала думка, што Галубок быў мастаком-дылетантам. Але гэта не так. Бо не дыплом вызначае мастака, а яго работы і тая настойлівая студыя-школа, якую можна атрымаць пры жаданні і настойлівай працы.

Галубок вучыўся ў дарэвалюцыйны час у мастака-прафесіянала Пракоф'ева, а трохі пазней і пад кіраўніцтвам мастакоў Сухоўскага і Яроменкі.

Рука Галубка ўпэўнена трымала пэндзаль і мастыхін. Прыёмы змяшэння фарбаў, як мазаіка, з разлікам на адлегласць, майстэрскі «схоплены» эцюдны матэрыял і іншыя прыкметы прафесійнасці таксама гаварылі за сябе. Галубок вучыўся ва ўсіх і ўсюды, дзе толькі мог.

Ён ездзіў часта ў Маскву і Ленінград, дзе вечарамі наведваў тэатры, а ў дзень вучыўся ў музеях, падоўгу прастойваючы каля прац любімых мастакоў—Крыжыцкага, Левітана, Шышкіна.

Галубок многа чытаў. Першае месца тут займалі творы драматургіі і літаратура па выяўленчым мастацтве. Вельмі любіў Шэкспіра, збор твораў якога меў у сваёй бібліятэцы.

Любіў Галубок наведваць Віцебскі мастацкі тэхнікум, а за час навучання ў ім яго сярэдняй дачкі Люсі—дык наведваў па два разы штогод. Наогул артыста цікавіла моладзь яшчэ і такіх навучальных устаноў, як Беларускі педагагічны тэхнікум і вячэрнія школы рабочай моладзі, адкуль з гурткоў мастацкай самадзейнасці часта выходзілі здольныя таленавітыя «кадры» для Галубковага тэатра.

З таго часу, калі вандроўны тэатр Галубка атрымаў новую назву— БДТ-3, а кіраўнік яго стаў дырэктарам—усё стала мець тую саліднасць, што і ў іншых тэатрах: свой рэжысёр, свой мастак, свой памрэж, касцюмерная, бутафорная майстэрні, рабочыя сцэны, электрыкі, цырульнікі ды грымёры.

Штат работнікаў тэатра пашырыўся—ды было яму працаваць не цяжка, бо артысты па звычцы выконвалі самі тыя работы, на якія зараз прыйшлі новыя людзі. Галубок, як і раней, але з большай адказнасцю ставіўся да новых абавязкаў.

Па традыцыі ў пачатку новага сезона выстаўляліся ў фае тэатра творы жывапісу, зробленыя за час адпачынку Уладзіславам Галубком. Значэнне гэтых выставак пераацаніць нельга. Яшчэ і зараз сустракаем людзей, якія кажуць, што першы твор жывапісу ўбачылі менавіта ў тэатры Галубка. Дарэчы, многія палотны Галубка засталіся пасля гастроляў там, дзе пабываў тэатр.

Вядомасць артыста выклікала асаблівую цікавасць да яго з боку беларускіх мастакоў. Яны малявалі або ляпілі яго партрэты, а падчас рабілі і сяброўскія шаржы. Пазіраваць для мастакоў Галубок не любіў, бо гэта прымушала яго падоўгу сядзець нерухома на адным месцы, а яго натура супраціўлялася ўсякай бяздзейнасці. А вось фатаграфавацца, як і ўсякі артыст, ён любіў і ніколі не адмаўляў фатографам.

Шкада, што не засталося ніводнага з тых партрэтаў. Засталіся толькі рэдкія сямейныя фатаграфіі ды ўспаміны тых, хто добра ведаў яго. І ўсё ж не сатрэцца з памяці яго аблічча.

...Расхінаючы заслону пражытых гадоў, бачу, як сёння, гэтага дзівоснага чалавека і дзеяча.

Сядзіць ён на складным крэсле ў сваім чорным капелюшы, заламаным на бакір, перад ім эцюднік, а навакол густа абступілі яго хлапчукі, бо дзяўчаты саромеюцца і стаяць воддаль. Адзін з хлапчукоў дык стаў зусім блізка перад вачыма мастака; відаць, хацелася яму папасці на палатно, на якое клаў фарбы гэты мілы дзядзька-чараўнік.

І вось ажывае ў памяці калісьці бачанае—з крутога берагу адкрываецца шырокі Сож, па якім недзе ў далечыні невялічкі буксір цягне аграмадную баржу. А вунь з-за павароту з'явіўся і параход, лёгкі, белы, нібы чайка на вадзе. Віецца чорны дымок у блакітнае неба, а пліцы колаў быццам бы чэрпаюць ваду—так старанна, хоць і марудна, бо цяжка ім змагацца з плынню шпаркае красуні-ракі. А па вадзе кладуцца крывыя палосы, якія пасля набягаюць на бераг дробнымі хвалямі і разбіваюцца аб яго.

Прыгожа і хараша — вачэй не адарваць! Гэты пейзаж Галубка пад назвай «Сож» я ўбачыў на Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў памяшканні былой кірхі ў Мінску.

Многа, вельмі многа стварыў Галубок. У многіх выстаўках удзельнічаў. Не прайшло яго мастацтва бясследна—паўплывала на развіццё роднай культуры.



Два пейзажы Уладзіслава Галубка, рэпрадукцыі якіх мы вам прапануем, зусім выпадкова захаваліся ў Гомельскім палацы культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.

Яны нідзе і ніколі не друкаваліся, нам, нават, невядома, як назваў іх сам аўтар.



Багатая жывапісная спадчына Ул. Галубка пакуль што зусім не даследавана. А, між тым, ёсць звесткі, што яго карціны захаваліся не толькі ў Гомелі, але і ў некаторых іншых гарадах нашай краіны.

## ПРЭМІЯ НА УСЕСАЮЗНЫМ КОНКУРСЕ

*Прэзідыум ВЦСПС і сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў СССР падвялі вынікі Усесаюзнага конкурсу на лепшы твор мастацкай прозы аб савецкім рабочым класе. Сярод узнагароджаных — беларускі пісьменнік Алесь Савіцкі. Заахвочвальнай прэміі ўдастоена яго дакументальная аповесць «След пракладае першы».*

## ВЕЧАР СЯБРОЎ КНІГІ

На гэты раз гасцямі трактаразаводцаў былі пісьменнікі Алесь Асіпенка, Уладзімір Карпаў, Еўдакія Лось і Раман Сабаленка. Да кніжных столікаў не прабіцца. Кнігалюбы ахвотна набывалі творы з аўтографамі гасцей-літаратараў. Амаль кожны набываў не менш чатырох кніг. Настаўніца 87-й сярэдняй школы Ф. Мялешка, інжынер Ул. Каламыцьеў, камсамольскі важак трактаразаводцаў Л. Васількова, сяброўкі-вучаніцы 11-й школы С. Каланіцкая і Т. Яцкевіч і многія, многія іншыя...

Што ж, такі пачатак вечара сяброў кнігі, які адбыўся 17 мая ў Палацы культуры трактарнага завода, аказаўся сапраўды шчаслівым. Поспеху вечара паспрыяла добрая выдумка яго арганізатараў. Уважліва слухала аўдыторыя расказы пісьменнікаў аб сваёй рабоце, творчых планах, іх творы.

Нечаканым і прыемным было знаёмства з літаратурнымі героямі любімых кніг. Тут ужо вызначыліся артысты народнага тэатра Палаца культуры. І ажыў славуты чэхаўскі Ванька Жукаў, які пісаў пісьмо свайму дзядулю, гогалеўскія Фяўронія Нікіфараўна і Апанас Іванавіч, чытаўся ўрывак з верша Якуба Коласа «Святы Ян»...

Цікавым і змястоўным было выступленне загадчыцы бібліятэкі Палаца культуры Ф. Цырлінай, якая расказала, як любяць і шануюць кнігу трактаразаводцы. А яшчэ на вечары выступілі старшыня літаратурнага аб'яднання пры газеце «Трактар» інжынер Мікола Вяршынін і даўні кнігалюб, член савета бібліятэкі Алена Созінава. Намеснік сакратара камітэта камсамола завода Лілія Васількова ўручыла падарункі лепшым грамадскім распаўсюджвальнікам кнігі.

На заводзе толькі што закончылася дэкада кнігі. Камсамольцы паказалі сябе ўмелымі яе прапагандыстамі. Літаратуру яны прадавалі на рабочых месцах—у дваццаць адным цэху прадпрыемства, у лабараторыях і інтэрнатах. Добры вынікі ў калектыве кавальскага корпуса, дзе гэтую справу ўзначаліў камсамолец Аляксандр Кабрусеў. Ініцыятыўнай работай вызначыліся камсамольскія арганізацыі механічнага цэха № 6, цэнтральнай даследнай лабараторыі, ліцейнага цэха № 4. Камсамолкі Зоя Сакольчык, Ганна Даўжонак, Людміла Нікіценка, Ганна Тунік любяць кнігу і нямала зрабілі, каб яна была ва ўсіх іх таварышах па рабоце.

З цікавасцю глядзелі ўдзельнікі вечара кінакадры, прысвечаныя Міжнароднаму году кнігі, шчыра віталі і пераможцаў літаратурнай віктарыны.

## НАПІСАНЫ ЎНУКАМ ВІНЦЭСЯ КАРАТЫНСКАГА...

Неяк гады з два таму назад у мяне зазвінеў тэлефон:

— З вамі хоча сустрэцца ўнук Вінцэся Каратынскага. Прыязджайце ў гасцініцу «Юбілейная», пакой нумар...

Спачатку ўзнікла сумненне: а можа гэта звычайны розыгрыш сяброў? Але ў той вечар я

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

**У кожнага, хто бываў у Балгарыі альбо сустракаўся з балгарамі на нашай зямлі, першае ўражанне ад такой сустрэчы — шчырая, ветлівая ўсмешка. Балгары любяць смяяцца, любяць вясёлы дасціпны жарт, анекдот, любяць расказваць смешныя і забаўныя гісторыі. Сёння, напярэдадні Дзён балгарскай літаратуры ў БССР, «Вясёлая трасянка» прапануе сваім чытачам гумарэскі і жарты розных балгарскіх пісьменнікаў, а таксама некалькі габраўскіх анекдотаў, якія друкуюцца ў нас упершыню.**

**Падабраў іх і пераклаў з балгарскай мовы Ванкарэм Нікіфаровіч.**



Пад агнём вялікай крытыкі.
Мал. Жыўка ЯНЧАВА.




Без слоў.
Мал. Славі МІЦЕВА.

**Барыс АПРЫЛАЎ**

## АДПАЧЫНАК З БАЙКАПІСЦАМ

МЫ ПРЫЕХАЛІ ў дом адпачынку крыху раней тэрміну, калі адна змена ад'язджала, а другая яшчэ не з'явілася. Два дні мы былі зусім адны. Усюды пуста і ціха, не чуваць ні дзіцячых галасоў, ні ажыўленых спрэчак на вечныя літаратурныя тэмы пра форму і змест. Ва ўсім доме адпачывалі цяпер толькі двое—я і мой калега па пяры байкапісец Доца Дэкавілкаў. Стаялі цудоўныя дні, напоўненыя пахам сасновага бору, ціхім шумам ручая і шышак, якія мякка падалі з дрэў...

У першы дзень, раніцай, калі я збіраўся паспаць пазней, мяне разбудзіў байкапісец:

— Братачка, ведаеш, што здарылася? Я ўбачыў глушца!

— Ну і што з таго, — адказаў я. — Навошта ты мяне разбудзіў?

— Гэта ж глушэц, браце! Напісаў я дзве байкі пра глушцоў, а ніколі раней іх не бачыў.

— Можа, гэта быў не глушэц? — узняўся я, страціўшы надзею заснуць зноў. — Калі ты не бачыў іх раней, як жа ты пазнаў, што гэта глушэц?

— Ды як жа: ён ляцеў вельмі глуха, і я зразумеў, што гэта глушэц.

Я памыўся, перакусіў і выйшаў на тэрасу. Тут мой сябра сядзеў у крэслекачалцы і грыз сваё сціло.

— Скажы мне некалькі рыфмаў да слова «бор»,— звярнуўся да мяне Дэкавілкаў.

— А навошта табе? — запытаўся я.

— Я вырашыў напісаць байку «Мыш і бор».

— Двор, мор, мухамор, — пачаў я.

Ён у адчаі пакруціў галавой.

— Я адмаўляюся ад бору, браце!.. Няма адпаведных рыфмаў. Напішу лепш байку «Мыш і сокал».

— Гэтак нельга,—сказаў я. — Трэба зыходзіць ад зместу. Пра што ты хочаш напісаць?

— Як пра што? Пра зазнайства, пра бюракратаў, пра валакітчыкаў... Ды розныя тэмы ёсць, д'ябал іх ведае...

Мой калега змоўк на хвіліну і заўважыў:

— Ведаеш, цяпер, калі мы тут адны, я раскрыю табе важную тайну. Разумееш, братачка, мы, байкапісцы, шукаем спачатку назву, а потым робім усё астатняе. Каб было ў назве нешта цікавае, нечаканае, разумееш? Такіх звяроў, як леў, тыгр, слон, я ўжо разоў сто выкарыстаў. А пра асла і каня нават і не пытайся. Цяпер шукаю нешта арыгінальнае.

— Напрыклад?

— Напрыклад, — сказаў ён, — павук і сонца...

— Бабы і перац, — у тон яму прамармытаў я.

— Э, да раслін мы яшчэ не дайшлі. Але патрэбна разнастайнасць. Многа баек з'явілася, ведаеш. Усе пішуць байкі. І маладыя, пачаткоўцы, і сталыя — усе. Калі не прыдумаеш чаго-небудзь, цябе абставяць.

З гэтай хвіліны байкапісец хадзіў за мной, як цень.

— Што ты скажаш, калі я так назаву байку: «Вецер і вятрак»?

— Назаві, хто ж табе перашкаджае?

— А што ў ёй высмеяць?

Я сеў і пачаў думаць, што можна высмеяць у байцы з такой назвай.

— Пішы, — сказаў я. — Вятрак, як і кожны млын, круціўся, круціўся і зазнаўся. «Я высокі,—гаварыў ён, — я кручуся і ўсе мне зайздросцяць». Тады вецер раптам перастаў дзьмуць, і крылы млына застылі на месцы. На крыло села сойка і сказала: «Не будзь фанабэрысты, млыне, не мялі дарэмна словы, таму што ты залежыш ад ветру».

— Брава!.. Брава!—узрадаваўся байкапісец. — Адзін момант! Цудоўная ідэя!

Яго сціло забегала па паперцы. Я пайшоў у свой пакой і лёг адпачыць. Некалькі разоў заходзіў да мяне байкапісец і пытаўся пра рыфмы. А роўна праз паўгадзіны ён сказаў:

— Гатова! Давай цяпер што-небудзь яшчэ.

— Што «гатова»? — здзівіўся я.

— Байка закончана, вось што! Давай цяпер другую тэму.

Я задумаўся.

— Пішы! — сказаў я неўзабаве. — Дыктую назву: «Адэкалон і вада»...

— Напісаў!

— Аднойчы побач са шклянкай чыстай вады паставілі бутэлечку адэкалону. Адэкалон зірнуў на шклянку і сказаў горда: «Хто ты, шэрая вадкасць?.. Калі я не памыляюся — не маеш ніякага водару, ніякага колеру. Ды і няма прыгожай этыкеткі на тваёй шклянцы. Каму ты патрэбна? Дзеля чаго жывеш на свеце?» А вада сціпла адказала «Я патрэбна людзям для жыцця, яны мяне п'юць. А варта дадаць да мяне араматычных рэчываў, і я стану адэкалонам!».

— Ідэальна! — ускрыкнуў байкапісец. — Геніяльна!

Яго аўтаручка ізноў пабегла па паперы. Праз паўгадзіны мой калега прыўзняў галаву і сказаў:

— Ужо дзве... Далей!

Скажу я вам, сябры, што мой друг-байкапісец напісаў за гэтыя два дні восемдзесят тры байкі. Мой адпачынак ператварыўся ў пекла, але друг свяціўся радасцю. Кожную гадзіну ён паўтараў:

— Вось гэта адпачынак! Ствараць, а не сумаваць! Добрую справу робім, браце! Далей...

З вялікай радасцю я сустракаў людзей, што прыехалі сюды на змену на трэці дзень, — мне трэба было неяк адчапіцца ад Доцы Дэкавілкава. Праўда, і пазней ён імкнуўся падысці бліжэй да мяне, але я хадзіў увесь час разам з Мішам Парушавым, другім вядомым байкапісцам. А побач са сваім канкурэнтам Дэкавілкаў не асмельваўся пытацца пра назвы і тэмы.

Цяпер я ўжо ў Сафіі. Літаратурны сезон пачаўся, і я з нецярплівасцю чакаю, калі ў нашым перыядычным друку пачнуць з'яўляцца знаёмыя мне байкі, кожная з якіх напісана за паўгадзіны ў тыя незабыўныя дні, калі я адпачываў разам з байкапісцам Дэкавілкавым.

## *ГАБРАЎСКІЯ ЎСМЕШКІ*

### ХТО АКРАПЛЯЕ — ТОЙ І ПАДМЯТАЕ

У краму габраўца зайшоў поп і па звычцы акрапіў яе ў гонар нейкага свята.

Габравец замест падзякі працягнуў яму мятлу:

— Тут такі парадак: хто акрапляе — той і падмятае!

### РОЗНІЦА

— Якая розніца паміж адпачынкам на моры і ў гарах?—запыталі ў габраўца.

— У пабочных выдатках,—быў адказ.

### УЗРАДАВАЎСЯ

Габравец пайшоў у бакалейную краму. Ідучы, думаў, — купляць яму паўкіло маслін альбо кілаграм.

— Кіло маслін,—сказаў ён, увайшоўшы.

— І палавіны не набярэцца,—адказаў гандляр.

Габравец уздыхнуў і сказаў сам сабе: «Добра, што я папрасіў цэлы кілаграм!»

### ГАЛОЎНАЕ

Габравец узлез на драбіны, аступіўся і паляцеў на зямлю. Ад удару самлеў. Апрытомнеўшы, адразу спытаў:

— Драбіны цэлыя?

### НЕ АДДАЎ ПАЗЫКІ

Два габраўцы сустрэлі на вуліцы вядомага багацея.

— Бачыш яго? — сказаў адзін.—Не аддаў мне некалькі мільёнаў леваў.

— Калі ў цябе былі такія грошы яму пазычыць?

— Ён адмовіўся выдаць сваю дачку за мяне...

### ЦЭЛАЕ ЯЙКА

Да габраўца прыйшоў госць. Гаспадыня зварыла яйка на пачастунак. Маленькі ўнучак прагнымі вачыма ўтаропіўся ў гэта яйка.

— Не глядзі так!—сказала гаспадыня. — Дзядзька не буйвал, каб з'есці ўсё яйка. Пакіне і табе.

### БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Сучасны малады габравец гаворыць свайму дзядулю:

— Дзеду, цяпер модна купляць сваім унукам аўтамабілі, калі ўнукі носяць такія ж імёны, як і дзяды.

— Я старамодны чалавек, хлопча, — пачуўся адказ.

**Іван ПАЎНОЎСКІ**

## МІЖ ІНШЫМ

*Некаторыя пісьменнікі не маюць нават замагільнага жыцця, бо ў юбілеях, урачыстасцях і ўшанаваннях праходзіць і яно.*

□

*Бліскучая іронія, несумненна, — гэта свята ісціны, але вельмі своеасаблівае, як памінанне нябожчыкаў.*

□

*Добры рэдактар — гэта чалавек, які правіць слабыя рукапісы і крыху псуе выдатныя. Сярэднія ён здае ў набор такімі, як яны ёсць.*

□

*Сцярвятнікі ядуць тое, на што ўжо ніхто не заяўляе прэтэнзій. Гэту ж карысць прыносяць і эпігоны.*


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.





Індэкс 63856 АТ 01744